PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (2051) ГОД XL БЕЛАСТОК 3 ВЕРАСНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Святая Гара бы магніт прыцягвае дзесяткі тысяч вернікаў (рэпартаж з Грабаркі чытайце на 9 с тaронцы).*

*Ганна Кандрацюк*

## СТРАСЦІ ВАКОЛ АХВЯР

**Дазвол на пахаванне на бельскіх ваенных могілках і на пабудову помніка 29-ці ахвярам — жыхарам беларускіх вёсак Краснае Сяло, Збуч, Пасечнікі-Вялікія, Чыжы, Ягаднікі, Падрэчаны, Крывая, Махнатае, Арэшкава, Лазіцы, Залешаны — замардаваным атрадам Narodowego Zjednoczenia Wojskowego 31 студзеня 1946 г. у лесе непадалёк вёскі Пухалы-Старэ, стаў самай складанай і нервовай справай XVII сесіі гарадской рады ў Бельску-Падляшскім. З ліку 21 прысутных радных за прапановай галасавала 15, адзін радны быў супраць.**

Пачаць тэму было нялёгка. Апазіцыя ўжо ў самым пачатку дашукоўвалася шмат якіх засцярог і прапанавала перанесці дыскусію на бліжэйшую будучыню. Паводле юрыста, раднага Шмурлы, рада не мае права займацца такой тэмай бо не мае для гэтага адпаведных паўнамоцтваў. Недарэчна таксама, паводле яго, гаварыць пра перапахаванне на ваенныя могілкі, калі іх адміністратарам з'яўляецца ваявода. Аднак большасць радных быццам і не звяртала ўвагі на гэтыя аргументы, бачачы ў іх адно стратэгію сапернікаў. Прапанова, якая ставілася на галасаванне, датычыла *дазволу на перапахаванне 29 ахвяр морду, на бельскія могілкі, ужо пасля эксгумацыі з лесу, што недалёка Пухал-Старых і каталіцкіх могілак у Кліхах.*

— Нам не ідзе пра помсту, хочам адно па-хрысціянску пахаваць сваіх родных і забыцца пра крыўду, — сказаў прадстаўнік Грамадскага камітэта памардаваных сем'яў на канец інфармацыйнага выступлення.

Хаця морд 29 фурманоў у 1946 г. стаў, здавалася б, на Беласточчыне справай адкрытай, то ў Бельску сярод радных постсалідарніцкай апазіцыі чуліся кур'ёзныя выказванні.

— To są sprawy przedawnione, a informacje są suche i nic nie mówią, — заявіў радны Падсвентны, змястоўна і эмацыянальна каментуючы ўраўнаважанае выступленне прадстаўніка Камітэта памардаваных сем'яў. На такі падыход да справы ў зале аж закіпела. Паветра перапоўніла нервовая атмасфера. Прысутная жанчына, якой бацька загінуў у той час, ад хвалявання пачала голасна плакаць.

— Калі нехта не хоча пра гэта ведаць, бо гэтак найвыгадней, то яго справа, — сказаў радны Гушч.

У адпор выступіў радны Ягела.

— Справа чакала 50 гадоў. Чаму сёння, калі дзеюцца ўсялякія „чачні", выцягваюць яе.

Асаблівую засцярогу выклікала месца пахавання.

— Чаму не пахаваць ахвяр на праваслаўных могілках? Агульнавядома, што ахвяры не былі жаўнерамі. А калі хаваць іх побач акаўцаў, якія тады будуць надмагільныя таблiцы?

Справа ў тым, што на бельскіх ваенных могілках пахаваны чырвонаармейцы, акаўцы, міліцыянты і функцыянеры службы бяспекі. Найбольш месца займае т.зв. „droga krzyżowa", дзе стаяць помнікі змагарам за незалежную Польшчу ад часоў першага падзелу Рэчы Паспалітай. Паралельна з польскай крыжовай дарогай мела б узнікнуць „Падляшская крыжовая дарога". Былі б там пахаваны астанкі 29 фурманоў, таблiцы з прозвішчамі ахвяр з пацыфікаваных вёсак Залешаны, Зані, Шпакі, Волька-Выганоўская, Паўлы. Паводле раднага Ягелы такое суседства спрыяла б толькі развіццю нацыяналізмаў.

— Nie skończy się na pochówku 29 osób.

Дарэчы, радны вельмі хацеў бы пазнаць праўду, бо чуў, „że zamordowani byli współpracownikami służb specjalnych".

У зале ўспыхнула яшчэ большае абурэнне.

— Сярод ахвяр былі малыя дзеці, — адзначыў прадстаўнік Камітэта памардаваных сем'яў, які сам будучы дзіцём бачыў, як расстрэльвалі яго маці.

Голас узяў радны Артысевіч.

— Ад гэтых спраў мы нідзе не дзенемся. Каб шанаваць памяць нявінных людзей, мусім змагацца за праўду. „Крыжовая дарога" будзе раўнаважыць усю хлусню, у якой жывем.

Радны дадаў, што будзе гэта „ciemna plama na honorze RP".

Яшчэ раз выступіў радны Ягела, які адзначыў што толькі ставіў пытанні і нічога канкрэтнага не сцвердзіў: „Sam bym głosował „za", gdybym znał prawdę". Прыгадаў аднак пра паслядоўнасці, якія будуць, паводле яго, віной самiх радных.

На гэта адказаў радны Божка.

— У Бельску і так усе ведаюць хто чым пахне, хто адкуль прыехаў і хто чым займаўся ў тыя страшныя для беларусаў часы.

Быццам у адказ на намёк выступіў ветэран АК, экс-радны Ян Радкевіч.

— На ваенныя могілкі трэба было б перанесці астанкі 80-ці жаўнераў АК, раскінутыя па лясах былога Бельскага

*Працяг на стар. 3*

## Ніякі торт так не смакаваў

**Успамінае Аляксандр Бірыцкі са старога Ляўкова**

У 1939 годзе майго тату змабілізавалі ў войска, у Ваўкавыск. З Ваўкавыска везлі эшалонам у Варшаву. У родных старонках хацеў уцячы, але не ўдалося. Пад Варшавай папаў у палон, спярша быў у лагеры, а пасля далі да баўэра, у маёнтак у мясцовасці Гонглаў за Ольштынам. Дома асталося нас чацвёра: мама, дзве сястры і я. Жылі мы на хутары. Калі прыйшлі немцы, загадалі выбірацца з хутара: або ў Ляўкова, або ў Беласток. Далі 10 дзён тэрміну — калі хто не выбярэцца, таго спаляць. Солтыс вызначаў каго куды: дзве палкі — ў Беласток, крыж — у Ляўкова. Нас вызначылі ў Беласток. Прыехаў тата ў водпуск, а мы спакаваны. Ён да камісара і кажа: прападзем у Беластоку. Папрасіў, каб да сябе, у Германію, выслалі сям'ю. Камісар адстрочыў нас тымчасова ў Ляўкова. Паехаў тата назад, а суседзі перавезлі нашы будынкі ў вёску. Ляўкова разраслося ад моста аж да станцыі. У лютым скіравалі нас на камісію. Стаяў мароз — 30 градусаў. Дзед Мяфодзій посадзам у Бельск на камісію нас завёз. Не хацелася ехаць у Германію, прытвараліся што ў нас кароста, каб не прынялі, але доктар пазнаў нашы штучкі. Праз месяц прывозяць павестку. Узялі куфэрачак з лахамі і сваяк завёз нас на станцыю. У Простках была перасадка. Заехалі ў Ольштын, селі на станцыі, немцы на нас глядзяць. Адзін падышоў, мама паказала паперу. Завялі нас у арбайтсамт — там тры пані і мужчыны. Спісалі нас і далі паесці. Сядзелі цэлы дзень; зала вялікая і нікога больш. Пад вечар на змярканні ўсе разышліся, толькі святло электрычнае гарэла, якога ў нас не было. Старычок уваходзіць і забірае нас на платформу, што малако вазілі; нешта вазілі ноччу. Сядаем мы на той воз і параю коней вязе. Вёз у Клеўкі. Прывозіць; святло ў гаспадара гарыць, гадзіна мо 9—10 ночы. Пляц вялікі, забудаваны. Высаджваюць на падворку і вядуць да бяздзетнай сям'і Юзэфа і Ядвігі, і гаворыць там начаваць. Штуба маленькая. Прыносяць вялікую міску яды, хлеба, кавы, усяго. У арбайтсамце таксама давалі хлеб і каву. Мама пытае пра свайго мужа, але тут нічога пра яго не чулі. Пераначавалі на падлозе на саломе. Гаспадар быў адукаваны і гаспадыня ведала чатыры мовы, прыгожая была. Далі снеданне і маці зноў пытае пра бацьку. Кажуць 20—25 кіламетраў адтуль. Да работы маці не бяруць. Абед даюць з двух страў, бо Ядвіга на сталоўцы працавала. Сядзім два месяцы, нас кормяць малаком, бо хіба з сотня кароў у маёнтку была. Гаспадар даў знаць пра бацьку — прыехаў веласіпедам і просіць гаспадара, каб перавёў да сябе. А ён быў бюргермайстрам, солтысам па-нашаму. Па трох-чатырох месяцах бацька пераехаў да нас. Вясной пайшлі мы на работу. Бацька карміў 30 коней, потым фурманам быў. Дзень у дзень ездзіў у Ольштын: вазіў або яго, або яе. Баўэр быў вельмі добры, культурны, нікога не ўдарыў; таксама і гаспадыня — з кожным гаварылі. А ежы штодня як на Вялікдзень. Не было дня без мяса. Нядзеля была нядзеляй — гаспадары ў кірху ехалі. А былі там і палякі,

*Працяг на стар. 10*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Сёньня як бы ні называліся нашыя нацыянальныя партыі, усе яны па сутнасьці сацыялістычныя. І гэта не выпадковасьць. Беларускі нацыянальны рух у ХХ ст. і ўзьнік як сацыялістычны. Нават беларускіх ксяндзоў палякі называлі „агентамі саўдэпіі". Можа гэты сацыялізм у прыродзе беларушчыны?*

*Свабода, н-р 31*

Штосьці ў гэтым ёсць!

* * *

*Людзям неабходна растлумачыць, што свой лёс трэба браць у свае рукі. На жаль, мы ўсё яшчэ не маем сапраўднай незалежнасці. У нас яна, так бы мовіць, толькі прызнаная. Зараз мы ідзем па шляху вернападданства Расіі. Але я ўпэўнены, што сапраўдная незалежнасць нас не абміне. Таму, што большасць моладзі настроена патрыятычна,* — сказаў Станіслаў Шушкевіч.

*Наша слова, н-р 31*

* * *

*Друк паведаміў аб тым, што ў час апошняй прысягі ў часцях унутраных войск Беларусі навабранцы прысягалі на вернасць не дзяржаве, а яе кіраўніку Прэзідэнту.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 31*

Спадар Лукашэнка не цалкам арыгінальны ў гэтай справе. Кароль Францыі Луі XIV першы сказаў: „Дзяржава — гэта я".

* * *

*Чацвёрты і, мабыць, апошні раз беларусы мелі магчымасць у гэтым годзе адзначаць як дзяржаўнае свята Дзень Незалежнасці. Гэтае свята, на жаль, не з'яўляецца сапраўдным сьвятам сённяшніх кіраўнікоў краіны. Не ўсведамляецца яно як нацыянальнае свята і большасцю насельнікаў Беларусі, якія нядаўна ў ходзе рэферэндуму падтрымалі антынацыянальную па сутнасці палітыку... Цвёрда засвоіўшы расейскую інтэрпрэтацыю гісторыі Беларусі, наша кіраўніцтва спрабуе даказаць, што беларускі народ без аб'яднання з Расіяй не зможа выжыць.*

*Культура, н-р 27*

* * *

*Wódka Kmieć to najnowszy produkt Polmosu ze Starogardu. „Polska, Smaczna, Ludowa" głosi napis na etykiecie. Pierwsze trzy zielone litery układają się w skrót PSL. Hasło miało chwycić określoną grupę odbiorców, twierdzą w Polmosie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 191*

Фальклор пачынаўся найчасцей пасля дэгустацыі вырабаў „Польмаса".

* * *

*Ktokolwiek w Doniecku czy Charkowie zacznie rozmawiać po ukraińsku, a tym bardziej propagować ten język, od razu oceniany jest jako zajadły ukraiński nacjonalista. Większość Ukraińców mówi tutaj po rosyjsku.*

*Gazeta Wyborcza, nr 188*

Беларусы ў гэтым кантэксце з'яўляюцца ў Еўропе зусім нармальным народам.

* * *

*Przez setki lat a zwłaszcza ostatnich kilkadziesiąt trzymało nas przy życiu przekonanie, ze ktoś nas ciągle prześladuje. Prym wśród ciemiężycieli wiedli Niemcy i Rosjanie a przelotnie inne nacje, np. Żydzi. I oto w 1989 r. stała się rzecz straszna — pozbawiono nas, Polaków, prześladowców. Najbardziej zawiedli Rosjanie, bo zajmują się swoimi problemami wewnętrznymi i troszeczkę Jugosławią. Od sześciu lat budzimy się i z przerażeniem stwierdzamy, że nikt nas nie gnębi. Tak dalej być nie może.*

*Wprost, nr 34*

* * *

*Sprzedajne kobiety, małoletni samobójcy, narkomani, sadystyczni rodzice. Tanie wina na pijanych prywatkach, drogie samochody ludzi z mafii. Politycy kłamią, a telewizja ogłupia. Tak wygląda świat przedstawiony w piosenkach polskich raperów. Wszystko jest opisywane językiem ulicy — slangiem pełnym wulgaryzmów. Świat polityki jest w polskim rapie sprowadzony do poziomu potocznego doświadczenia. Liczy się to, co widać i słychać na ulicy, w sąsiedztwie czy w telewizji. Posłuchajmy Liroya z Kielc:*

*Dzień za dniem, ciągle jedno i to samo,*
*że prezydent jest do dupy, że pieniędzy ciągle mało.*
*Dozorca w zoo znowu odwołany*
*Rząd cały coraz bardziej poje...y.*
*Ciągle wojny na górze, coraz biedniej na dole*
*coraz więcej samobójstw w każdej szkole,*
*Ciągły cyrk w telewizji, znowu leją po mordach,*
*ty harujesz po nocach, żeby mieć na obiad.*
*Chaos naookoło od rana do wieczora*
*na miłość i uczucia jakoś teraz nie pora.*

*Polityka, nr 32*

* * *

*Najważniejsze będzie określenie profilu przyszłego Uniwersytetu w Białymstoku. Nie ulega wątpliwości, że powinien on działać na rzecz środowisk polonijnych na Białorusi i Litwie,* — сказаў віцэ-маршалак Сейма РП Уладзімеж Цімашэвіч.

*Gazeta Współczesna, nr 152*

* * *

*Z badań wynika, że każdego lata przygody erotycznej szuka ok. 29 proc. Polek i prawie połowa Polaków. Wśród najważniejszych powodów zdrady 40 proc. pań podało pragnienie odmiany seksualnej, 69 proc. panów uznało, że tak naprawdę przyczyną niewierności była „sprzyjająca okazja", np. wyjazd bez żony. Tylko 5 proc. kobiet i mężczyzn żałuje potem niewierności. 51 proc. Polek i 57 proc. Polaków nie ma wyrzutów sumienia — przeciwnie cieszą się, że „było miło". 12 proc. ankietowanych akceptuje niewierność współmałżonka bez zastrzeżeń, drobne wątpliwości miało 14 proc. respondentów. Zazdrości partnera nie musi się więc obawiać co trzeci Polak.*

*Wprost, nr 33*

З гэтага відаць, што заклікі з боку маральных аўтарытэтаў не маюць вялікага ўплыву на паводзіны палякаў. Бліжэйшай ім становіцца шведская мадэль сямейнага жыцця, чым іранская. Аднак ідзем у Еўропу.

# З мінулага тыдня

**Архіепіскап Брусэля і Бельгіі Сіман** пабываў з візітам на Беласточчыне. Уладыка наведаў Гарадок і Супрасль, сустрэўся з беластоцкім ваяводам, гасцяваў у 18 Мотастралковай брыгадзе і пабываў у Дзіцячай клінічнай бальніцы. Затым архіепіскап Сіман падаўся на Святую Гару Грабарку, дзе ўдзельнічаў у свяце Праабражэння Гасподняга.

**Генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў** сустрэўся з мітрапалітам беластоцкім архібіскупам Станіславам Шымэцкім. Мэта спаткання — азнаямленне першаіерарха Беластоцкай архідыяцэзіі з працай консульства. Консулу быў уручаны памятны медаль, выдадзены з нагоды пабыўкі папы Яна Паўла II у Беластоку.

**Адкрыты ліст беластоцкіх каталікаў да прэм'ер-міністра Юзэфа Алексага** ў справе Супрасльскага манастыра падпісала 400 чалавек, у тым ліку навукоўцы, палітыкі і цяперашнія чыноўнікі. Каталіцкая петыцыя ад 19 жніўня г.г., у якой аспрэчваецца права Царквы на манастырскія будынкі, з'яўляецца рэакцыяй на ліпеньскі ліст 30 навукоўцаў Ягелонскага і Варшаўскага універсітэтаў з заклікам да ўрада прызнаць манастырскія аб'екты праваслаўным.

**Святая Гара Грабарка** — так называецца альбом, выдадзены на днях выдавецтвам „Ортдрук". У ім змешчаны тэкст Анны Радзюкевіч аб гісторыі праваслаўных манастыроў у Рэчы Паспалітай і фатаграфіі **Марка Далецкага**, які гадамі спадарожнічаў паломнікам на Святую Гару.

**Помнік сінагогі**, спаленай немцамі 27 чэрвеня 1941 г., быў адкрыты ў Беластоку ў 52 гадавіну паўстання ў беластоцкім гета. На ўрачыстасць прыехалі беластоцкія яўрэі з розных краін свету. Мясцовыя скіны двойчы намагаліся перашкодзіць правядзенню цырымоніі (ноччу хацелі абліць помнік фарбай, а перад адкрыццём помніка выкрыквалі непрыязныя лозунгі).

**VII Міжнародныя сустрэчы цыганскіх калектываў „Romane Dyvesa"** адбыліся ў Гожаве-Велькапольскім. У мерапрыемстве ўдзельнічала звыш трыццаці калектываў з Еўропы і Азіі. Сустрэчам спадарожнічала навуковая сесія „Цыганы — культура — мова — традыцыя".

**Звыш 2,5 тысячы замежных студэнтаў** штудзіравала ў Польшчы ў мінулым навучальным годзе. 42% замежнікаў — гэта паланійныя студэнты. Найбольш студэнтаў паходзіла з Украіны (693), **Беларусі (461)** і Літвы (391), а таксама з Сірыі (229) і іншых арабскіх краін.

**У Гайнаўцы** пачалася будова ачышчальні сцёкаў, якой завяршэнне плануецца на май 1997 г. Кошт гэтай інвестыцыі складзе 63 млрд. старых злотаў. Дзякуючы новай ачышчальні, адна з галоўных рэк Белавежскай пушчы — Лясная-Правая, цяпер надта забруджаная, атрымае III клас чысціні, што будзе мець дабратворны ўплыў на натуральнае асяроддзе пушчанскіх лясоў.

**Чыгуначнай лініі Беласток—Зубкі—Беласток** пагражае ліквідацыя. Адкрыты ліст генеральнаму дырэктару ПКП у справе далейшага курсіравання цягнікоў накіраваў ад імя жыхароў вёсак Саколе, Жжэня і Займа радны Міхалоўскай гміны **Андрэй Каспяровіч**. Ліст-пратэст атрымалі таксама беластоцкія парламентарыі, ваявода, рэдакцыі газет, радыёвяшчання і тэлебачання. Згаданая лінія лічыцца адной з найбольш нерэнтабельных у рэгіёне і на працягу апошніх гадоў лік паяздоў на гэтым маршруце зменшыўся з чатырох да двух у суткі.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Quo vadis, Аляксандр Лукашэнка? — пытае Сакрат Яновіч.

> Чаму гінуць лясныя комплексы Беласточчыны.

> Роздумы маладога чалавека над лёсам беларускай нацыі.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Запрашэнне да круглага стала

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выказаў намер правесці сёлета ў верасні круглы стол з удзелам буйных палітыкаў, лідэраў палітычных партый, грамадскіх рухаў і саюзаў. Па задумцы прэзідэнта, удзельнікам круглага стала трэба абмеркаваць шэраг палітычных і эканамічных праблем, накіраваных на ўмацаванне стабільнасці і грамадскай згоды ў Беларусі. Прэзідэнт падкрэсліў, што ў рабоце круглага стала змогуць прыняць удзел усе палітычныя сілы, якім неабыякавы лёс дзяржавы і якія шчыра жадаюць прагрэсу і працвітання беларускаму народу.

## Забастоўка транспартнікаў

У сталіцы Беларусі спачатку забаставалі работнікі тралейбуснага дэпо н-р 1, а на другі дзень падтрымалі іх работнікі менскага метро. Асноўныя патрабаванні — выкананне калектыўнага дагавора і своечасовая выдача заработнай платы. Пасля двух дзён, калі бастуючыя метрапалітэнаўцы не былі дапушчаны да месцаў працы, страйк спыніўся. Шаснаццаць машыністаў электралакаматываў былі звольнены з работы, а пятнаццаць прафсаюзных дзеячаў, абвінавачаных у арганізацыі забастоўкі, будуць прыцягнены да судовай адказнасці. У сувязі са страйкавай сітуацыяй у краіне (баставалі таксама транспартнікі Гомеля, рабочыя завода „Электроніка" ў Менску) прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка правёў дзве нарады, у якіх удзельнічалі сілавыя міністры і кіраўніцтва ўрада. Прэзідэнт загадаў ім строгае выкананне канстытуцыі і законаў рэспублікі па захаванні грамадзянскага спакою як у сталіцы, так і на тэрыторыі ўсёй Беларусі, што на практыцы абазначае прымяненне сілы да арганізатараў забастовак.

## Нявыгадныя падручнікі

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка даў распараджэнне Міністэрству адукацыі і навукі выключыць з сістэмы школьнай і вышэйшай адукацыі з 1 верасня г.г. падручнікі і дапаможнікі ўзору 1992—1995 гадоў. Новы навучальны год у гуманітарна-грамадазнаўчай галіне школы і ВНУ рэспублікі пачнуць часова па старых падручніках узору да 1991 г. Міністэрству адукацыі належыць стварыць дзяржаўную камісію па распрацоўцы новых падручнікаў. Гэтае рашэнне прэзідэнт прыняў пасля вывучэння матэрыялаў камісіі, якая ацэньвала змест падручнікаў, уведзеных у школьныя праграмы пасля 1992 г. Камісія прызнала, што змест гэтых падручнікаў носіць тэндэнцыйны, палітызаваны характар і па сваім узроўні не адпавядае патрабаванням сучаснай адукацыі.

## Паслядоўнасці распараджэння

Для Міністэрства адукацыі і навукі апошняе распараджэнне прэзідэнта аб выключэнні з сістэмы школьнай і вышэйшай адукацыі падручнікаў і дапаможнікаў узору 1992—1995 гадоў з'явілася поўнай нечаканасцю і выклікала ў яго работнікаў шмат пытанняў, адказаў на якія яны пакуль не ведаюць. Аб праверцы падручнікаў з боку адміністрацыі прэзідэнта ў міністэрстве таксама нічога не ведалі. Першы намеснік міністра адукацыі Генадзь Пятроўскі ад імя ўсёй калегіі падпісаў службовую запіску, у якой даказваецца неабходнасць больш уважлівага падыходу да праблемы падручнікаў. Ужо стала вядома, што забіранню падлягаюць каля пяцідзесяці назваў дапаможнікаў, з якіх толькі гісторыі прысвечана каля дваццаці. Пацерпяць таксама праграмы і навучальныя дапаможнікі для школ нацыянальных меншасцей. З якімі кніжкамі пачнуць новы навучальны год дзеці польскай, украінскай і літоўскай дыяспары невядома.

## Пратэст пісьменнікаў

Група беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч і іншыя, выступіла з заявай адносна распараджэння прэзідэнта РБ аб выключэнні падручнікаў узору 1992—1995 гадоў з сістэмы адукацыі. На думку пісьменнікаў, сістэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінута ў мінулае і не здолее даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзян гатовых да жыцця ў сучасным дэмакратычным свеце. На практыцы рэалізацыя распараджэння абазначае, што ў новым навучальным годзе школьнікі і студэнты застануцца без падручнікаў гісторыі, мовы і літаратуры ды іншых гуманітарных дысцыплін, якія фарміруюць светапогляд асобы *(каментарый Рыгора Барадуліна чытайце на 4 стар).*

## Дзень Войска Польскага

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі адзначала Дзень Войска Польскага. У дыпламатычным прадстаўніцтве ў сталічным Менску адбыўся прыём, на які былі запрошаны кіраўнікі беларускіх міністэрстваў, кіруючыя работнікі адміністрацыі прэзідэнта і прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі.

# Сонечныя фэстыны...

...адбыліся ў Слохах-Аннапольскіх каля Сямяціч, у Чаромсе, у Міхалове і ў Гарадку. 13 жніўня, таксама пад бясхмарным небам прайшлі два чарговыя беларускія фэстыны: у Дуброве-Беластоцкай ды ў Саколцы. Усюды на свежым паветры.

У Дуброве і ў Саколцы ярка праявілі сябе прыгожым і на высокім узроўні выкананнем песень самадзейныя мастацкія калектывы з Гарадка, Старога Ляўкова („Цаглінкі"), Беластока (хор БГКТ), з Грабянёў з-пад Дубровы („Гранд") і з самой Дубровы („Сальвадор"). Добра ды з вялікім энтузіязмам і палкасцю зарэкамендавалі сябе салісты, між іншым, Люба Гаўрылюк і Юрка Налівайка. Асабліва шматлюдна было на канцэрце і ўвогуле на фэстыне ў Дуброве. Тут народнае гулянне закончылася апоўначы. Да танца іграў вакальна-інструментальны калектыў „Невада". Крыху раней чымсьці ў Дуброве закончыўся фэстын у Саколцы. Тут моладзь бавілася на пляцоўцы перад мясцовым кіно. Іграў ёй папулярны на Дуброўшчыне спомнены грабянёўскі калектыў „Гранд".

Да спраўнага правядзення культурных масавых мерапрыемстваў прычыніліся, між іншым, Яніна Крагель з Мейска-гміннага асяродка культуры ў Дуброве ды актывіст Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аркадзь Суліма з Дубровы, а ў Саколцы — актывіст БГКТ Сяргей Крышань.

Ва ўсіх фэстынах удзельнічалі паслы ў Сейм Станіслаў Малішэўскі і Сяргей Плева. Падчас гэтых летніх культурных мерапрыемстваў можна было атрымаць аўтограф Янкі Целушэцкага, які падпісваў свае кніжкі „Імгненні" і „Панарама гмін усходняй Беласточчыны". Многа магнітафонных касет з мелодыямі беларускіх песень у выкананні „Маланкі", „Рэаля" і „Аса" прадала Лідзія Ліс, працаўніца бюро Галоўнага праўлення БГКТ.

***

У нядзелю, 20 жніўня бягучага года ў спакотную сонечную пагоду адбыліся беларускія народныя гулянні ў Кляшчэлях і Сямяцічах. На пляцоўцы каля купальнага басейна ў Кляшчэлях выступіла ажно дзевяць мастацкіх калектываў: „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, маладзёжны гурт з Кляшчэляў, „Каліна" з Дашоў, „Чарамшына" з Чаромхі, „Любашкі" з Дабрывады, „Гранд" з Грабянёў, „Ас" з Беластока ды хоры — БГКТ з Беластока і Гайнаўскага дома культуры.

У Сямяцічах, у амфітэатры ля штучнага вадасховішча, спявала і іграла на музычных інструментах шэсць калектываў, з тых што былі ў Кляшчэлях.

Канцэрт пачаўся а гадзіне 18. Мерапрыемства закончылася ў прыцемках і пры электрычным асвятленні. Як у Кляшчэлях, так і ў Сямяцічах на фэстыны прыехала і прыйшло многа людзей. Былі гэта ўдалыя масавыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

У фэстынах удзельнічалі між іншым генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Польшчы Міхаіл Слямнёў ды паслы: Мечыслаў Пецка, Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, а таксама аўтары беларускіх кніжак і былыя шматгадовыя журналісты „Нівы" Янка Целушэцкі і Міхась Хмялеўскі.

Прадстаўнікі Беларускага музея ў Гайнаўцы на чале са старшынёй Грамадскага камітэта пабудовы музея Канстанцінам Майсенем вялі латарэю ды збор грошай на пабудову музейнага аб'екта, у спецыяльныя скарбонкі. Лідзія Ліс з БГКТ нястомна прадавала магнітафонныя касеты калектываў „Маланка", „Ас", „Рэаль" і іншых. Іх тут ахвотна куплялі.

яц

Фота Сяргея Грынявіцкага



*Падчас фэстынаў можна было атрымаць аўтограф Янкі Целушэцкага.*

# У Нараўчанскай гміне

## Атрутны транспарт

Зараз цераз вакзалы ў Семяноўцы і ў Плянце, што ў Нараўчанскай гміне, ды цераз такія ж у Гайнаўцы і ў Чаромсе ездзяць паязды з цыстэрнамі з атрутнымі хімічнымі рэчывамі. Многа іх, а найбольш з газам пропан-бутан. З Рэспублікі Беларусь у Польшчу ўвозіцца яшчэ аміяк, нашатыр, хлор, талуол. Некалькі кіламетраў паязды едуць па чыгуначным насыпе-грэблі цераз Семяноўскае вадасховішча.

Калі б дайшло да чыгуначнай катастрофы ў Семяноўцы, дык немагчыма прадбачыць усяго, чым бы гэта скончылася. Для прыкладу, каб толькі адна цыстэрна з хлорам скацілася з насыпу ў ваду і пашкодзілася, праўдападобна ў такім выпадку была б атручана палова ўсёй тэрыторыі Нараўчанскай гміны.

Цераз найбольшае вадасховішча ў Беластоцкім ваяводстве праязджае каля 50 небяспечных для жыцця хімічных рэчываў. Як сцвярджаюць спецыялісты, хмара хлору над зямлёй атруціць усё жывое, а зона смерці можа даходзіць да 50 км ад месца ўцечкі ў радзе шырынёю ў некалькі кіламетраў. Хлор толькі нязначна распускаецца ў вадзе. З яго празмернасці паўстае воблака едкай саляной кіслаты, якая знішчае ўсе жывыя арганізмы. Страх падумаць, што б сталася, калі б вагон з хлорам кульнуў з чыгуначнага пуці.

Каля Семяноўскага вадасховішча вырастаюць усё новыя і новыя альтанкі ды дачныя домікі. У сезоне прыязджае сюды штораз больш турыстаў. І не толькі з Беласточчыны. Хай бы нікалі тут не дайшло да ніякай катастрофы...

Янка Падарожнік

# МОВУ ТРЭБА ДАСКАНАЛІЦЬ

Слухаў, слухаў і не вытрываў.

Ужо колькі часу слухаем беларускія радыёперадачы, у якіх неміласэрна калечыцца тая ж беларуская мова. Прытым бязлітасна яе ломяць і вышчэрбліваюць людзі з вышэйшай адукацыяй, якія лічаць сябе карэннымі беларусамі. Яны так упэўненыя ў сваім веданні гэтай мовы, што не задумоўваюцца над гэтым што і як гавораць ды не слухаюць тых моваведаў, якія выступаюць па радыё, як Яніна Чэрнякевіч, Мікола Гайдук ці Сакрат Яновіч.

Калі такія настаўніцы з *вышшай*, а не вышэйшай, адукацыяй прыйдуць у беларускае *прадшколе*, а не ў дзіцячы сад (дзетсад), то навучаць дзетак такой мовы, як калісьці ў арміі навучылі мяне нібы польскай кашэбы з курпсямі. А калі я ўжо ішоў у афіцэрскую школу, дык вядучыя са мной размову афіцэры здзіўляліся: „Вы тут у анкеце пішаце, што нарадзіліся ў Грабаўцы Бельскага павета, ды ў рубрыцы „нацыянальнасць" дэклaруеце беларускасць, а гаворыце на кашубска-курпёўскім жаргоне, хаця ваш акцэнт гэтаму таксама пярэчыць".

Паняцця *прадшколе* ці *прадшколле* я не знайшоў ні ў польска-беларускім слоўніку, ні ў тлумачальным.

Адным словам, калі адазвецца чалавек, які не кончыў беларускай філалогіі і нешта памылкова скажа, то з яго ўсе рагочуць, а калі ўжо мае вышэйшую адукацыю і выступае па радыё, карыстаючыся блытанінай гаворак тутэйшага рэгіёна, усё ў парадку. Бывае, што нехта адклікнецца на змест ягонага выступлення, але ніхто ніколі не асмеліўся, нават С. Яновіч, пакрытыкаваць мову зместу, якую зарэкамендаваў вучоны.

Мову трэба дасканаліць, а не засмечваць. А беларусы маюць да гэтага выключны талент.

Васіль Петручук

# СТРАСЦІ ВАКОЛ АХВЯР

*Працяг са стар. 1*

павета. Смешна займацца смерцю шпіёнаў ці выпадковых ахвяр — фурманоў.

Ганна Кандрацюк

P.S. Члены грамадскага камітэта памардаваных сем'яў, нягледзячы, што на сесіі выступалі афіцыйна, засцерaглі ананімнасць.

— Пасля артыкула ў „Ніве" (н-р 22 (2037), „49 гадоў не ведалі, дзе іх магілы") нас сустрэла шмат непрыхільнасцей, — сказалі яны і адзначылі, што з боку беларускага грамадства адчулі толькі маўклівую падтрымку.

# У Ягуштове і ў Рыбалах

Калі прыехаў я на адпачынак у Відава, дык адразу на другі дзень паехаў веласіпедам да інж. Барыслава Рудкоўскага і разам з ім да Ягуштова — сустрэцца са знаёмымі і сябрамі. У гэты дзень, суботу 22 ліпеня, стаяла цёплая, сонечная пагода. На акраіне Бельска будуецца штораз больш дамоў і хутка Бельск злучыцца з Ягуштовам. У Ягуштове пенсіянеры сядзяць на лаўках перад сваімі хатамі. Каля пошты сядзелі тры жанчыны і я прысеў да іх. Былі гэта 84-гадовая Дар'я Заброцкая, 74-гадовая Лідзія Плютовіч і 73-гадовая Таццяна Астасевіч, якая пазнала мяне, бо яна з Відава родам. Пры сустрэчы ўпэўніліся, ці гэта я, бо здалёк думалі, што я іегавіст і буду намаўляць, каб змяніць рэлігію. Бабулька Дар'я сказала: Мы здалі 15 гектараў зямлі разам з добрым лесам, а цяпер нам не пазваляюць свой лес рубаць, затое чужыя едуць, рубаюць на апал і ніхто не затрымоўвае.

У вёсцы многа чаго зрабілі: правялі ваду ў кожны дом, упарадкавалі могілкі — ачысцілі з карчоў, пабудавалі царкоўку на Баравісках. У вёсцы працуе тры крамы: адна гэзсаўская і дзве прыватныя. Людзі наракаюць на новы, капіталістычны, строй. Была прыгожая рашарня (ільноапрацоўчы завод), кажуць, людзі працавалі. А цяпер усё развязалі, людзей звольнілі, а што было можна вынесці, тое расцягнулі: хто нёс дзверы ці вокны на плячах, хто рухавік нейкі вазком вёз — страх што тут рабілася. Асталіся цяпер адно адны муры.

У вёсцы, каля рамізы (пажарнага дэпо), нядаўна ладзіўся беларускі фэстын, на які прыбыло многа народу.

Зайшлі мы яшчэ да паэткі Олі Анацік, якая піша вершы на сваёй гаворцы — мае іх каля сотні, цэлы сшытак запісаны. Пад вечар прыехалі ў Бельск, дзе і развіталіся да наступнай сустрэчы, якой не трэба было доўга чакаць.

***

Наступнага дня, у нядзелю, зноў разам з інж. Рудкоўскім едзем веласіпедамі ў Ягуштова, каб памаліцца ў царкве Іаана Багаслова. Службу адпраўляе настаяцель а. Яўген Хадакоўскі. Пропаведзь святчэннік гаворыць на мясцовай беларускай гаворцы. Пасля службы настаяцель запрасіў нас у гасцінны прыхадскі дом, дзе матушка Ірына прывітала нас як родных і запрасіла на чай і піражнае, якое сама выдатна выпякае. Матушка з'яўляецца настаўніцай беларускай мовы ў мясцовай школе. Пагутарылі мы яшчэ пра пабудову царквы на Баравісках і на іншыя тэмы з царкоўнага жыцця.

***

Наступнага дня мы з інж. Рудкоўскім паехалі ў Рыбалы, каб сустрэцца з настаяцелем прыхода св.св. Космы і Дзям'яна а. Рыгорам Сасной. Настаяцель запрасіў нас у прыхадскі дом на чай і марозіва, якое матушка сама гатовіць. Учора — кажа матушка — было ў нас чацвёра дзяцей з Мінска, якія адпачываюць у турысцкай базе ПКС над Нарвaю; кожная сям'я з нашай вёскі ўзяла да сябе па двое дзетак. На развітанне а. Сасна падарыў мне дзве свае кнігі.

Затым зайшлі мы да Янкі Морданя, які сардэчна і радасна нас прывітаў. Янка з інж. Рудкоўскім селі іграць у шашкі, а я тым часам пайшоў у бібліятэку, што на другім баку вуліцы. Бібліятэкарша Ніна Тамашук працуе там ужо 25 гадоў. У бібліятэцы 11 тысяч кніжак, якія чытаюць 94 дарослых і 118 дзяцей. Побач бібліятэкі Вясковы дом культуры, які вядзе Лідзія Мартынюк. З культурай цяпер тугавата — менш запрашаецца пісьменнікаў і мастацкіх калектываў. Падпіску газет для чытальні, сярод якіх і „Ніва", спансаруе гмінная управа. Паштаносец Уладзімір Гуралеўскі мае 35 пастаянных чытачоў „Нівы", а калісь, бывала, што і 200 было. На працягу сарака гадоў даручыў ён столькі „Ніваў", што і самаход не забраў бы.

Каля прадуктовай крамы гучна — п'юць піва. Калі стаялі ўжо на аўтобусным прыпынку, прайшоў п'яны мужчына з напалову выпітай бутэлькай дэнатурату. П'юць і маладыя, і старыя. Разводзяць з газіраванымі напіткамі, а то і чысты п'юць. А колькі ўжо маладых у зямлю пайшло праз „сінявокую Данусю".

А 11-й пад'ехаў аўтобус і мы з інжынерам вярнуліся ў Бельск. Лета гарачае, жар льецца з неба, аднак я задаволены з праведзеных сустрэч.

Андрэй Гаўрылюк

# ГІСТОРЫЯ ПА ЗАКАЗУ

15 жніўня сродкі масавай інфармацыі Беларусі паведамілі, што прэзідэнт Лукашэнка забараніў настаўнікам і школьнікам карыстацца падручнікамі дп вывучэнню гісторыі, выдадзенымі ў 1992—1995 гадах. Пакуль не будуць надрукаваныя новыя падручнікі школа павінна праводзіць адукацыю па гісторыі пры дапамозе савецкіх дапаможнікаў. Спецыяльная камісія, створаная прэзідэнтам, пасля парудзённай працы вырашыла, што гісторыя Беларусі, напісаная пасля аб'яўлення незалежнасці дзяржавы, разыходзіцца з праўдай. Самую чыстую праўду пра мінулае беларускага народа выявілі напісаць фашысты з беларускага аддзялення Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі, якой кіруе Уладзімір Жырыноўскі. Змены зместу навучання гісторыі пасля перамогі Лукашэнкі ў прэзідэнцкіх выбарах дамагаліся беларускія камуністы і расейскія шавіністы. Майскі рэферэндум толькі падмацаваў іх рашучасць, а заахвочваць прэзідэнта да такіх вырашэнняў не было трэба. Нават сталінска-брэжнеўская інтэрпрэтацыя гісторыі не адпавядала кансерватыўным сілам у Беларусі. Цяжка ўявіць, якія межы вынослівасці ў беларусаў, але такога псіхічнага здзеку даўно не перажывала ніводная еўрапейская нацыя.

Чаго затым будуць вучыцца беларускія дзеткі ад верасня 1995 г. Адзін з падручнікаў „Гісторыя БССР" аўтарства Л.С. Абэцэдарскага, М.П. Баранава, Н.Т. Паўлава ад 1984 г. будзе напэўна вельмі прыдатны для новай нацыянальнай адукацыі. На 34 старонцы аўтары апісваюць „Рух за ўз'яднанне з Расійскай дзяржавай" беларускіх феадалаў у XV і XVI стагоддзях. Аказваецца, што ўжо тады працоўныя масы прымусілі сваю феадальную знаць да змагання з літоўскімі князямі за далучэнне Беларусі да Расіі. А гэтае, што не было тады яшчэ расейскай дзяржавы, а толькі Маскоўскае княства найменш важнае спадарам Абэцэдарскім. Гісторыя мае быць такая, якой жадае ўлада. І ўсё.

На 53 старонцы згаданага дапаможніка аўтары змясцілі раздзел загалоўлены „Дапамога насельніцтва Беларусі рускай арміі". Справа ідзе пра вайну Расіі і Рэчы Паспалітай у 1654—1655 гадах, падчас якой у выніку дзейнасці войск цара Аляксея Міхайлавіча загінула больш паловы насельніцтва Беларусі. А як гэты час бачаць бээсэсэраўскія гісторыкі? „Вызваленчая вайна паказала, што беларускі і ўкраінскі народы без дапамогі братняга рускага народа не змогуць збавіцца ад улады магнатаў і шляхты. (...) Просьбы аб уз'яднанні Беларусі з Расіяй прыслалі маскоўскаму ўраду жыхары многіх беларускіх гарадоў. Імкліваму перасоўванню рускіх войск па тэрыторыі Беларусі садзейнічала падтрымка народных мас, якую яны аказвалі рускай арміі" (с. 53).

У Расеі, якая ў XVII стагоддзі імкнулася абараняць беларускіх сялян ад прыгнёту польскай шляхты — значыць змагалася за сацыяльную справядлівасць, нешта таксама папсавалася, бо ў канцы XIX стагоддзя беларускі народ думаў ужо толькі пра сацыялізм і бальшавікоў. „Бальшавікі Беларусі растлумачвалі працоўным значэнне класавай барацьбы. Нарастаючы ўздым рэвалюцыі 1905 г. патрабаваў ад партыі рабочага класа правільнага і цвёрдага кіраўніцтва. (...) У ліпені 1905 г. была апублікавана праца У. І. Леніна „Дзве тактыкі сацыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі". Гэтая геніяльная праца У. І. Леніна ўзброіла бальшавікоў праграмай барацьбы за перамогу" (с. 110).

Найцікавейшы аднак перыяд у гісторыі Бацькаўшчыны пачаўся пры канцы 1917 г.: „Дзякуючы самаадданай рабоце бальшавікоў і іх цеснай сувязі з масамі, Беларусь ператварылася ў адзін з апорных пунктаў сацыялістычнай рэвалюцыі. Такім чынам, напярэдадні ўзброенага паўстання разам з усім рабочым класам і беднейшым сялянствам Расіі рабочыя і беднейшыя сяляне Беларусі гатовы былі па заклiку бальшавікоў выступіць на барацьбу за ўладу Саветаў" (с. 148). І сталася. „Бальшавіцкія ваенна-рэвалюцыйныя камітэты былі створаны. Яны забяспечылі перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі і ліквідавалі органы буржуазнай улады, падаўлялі супраціўленне контррэвалюцыі, ахоўвалі рэвалюцыйны парадак" (с. 152). Пасля пару гадоў ліквідавання контрэвалюцыянераў, буржуазіі (адкуль яна на Беларусі?), шляхты, імперыялістаў настаў час гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Перашкаджалі ў гэтым „сфарміраваныя ў Польшчы банды Булак-Балаховіча" (с. 177). Аднак „Чырвоная Армія хутка разграміла бандытаў". Пасля „Рыжскага міру польскім памешчыкам і капіталістам удалося адарваць ад Краіны Саветаў заходнія вобласці Беларусі і Украіны" (с. 171).

Калі на захадзе Беларусі трывала польская акупацыя, на ўсходзе праводзілася „сацыялістычная індустрыялізацыя рэспублікі", а ў канцы дваццатых гадоў пачалося „сацыялістычнае пераўтварэнне сельскай гаспадаркі" (с. 195). Зразумела, што не было ніякага тэрору, не было скрываючай сотні тысяч чалавек магілы ў Курапатах, не было канцлагераў і не адкажа Абэцэдарскі, дзе загінуў у трыццатых гадах мільён беларускіх сялян. Але ж гэта было кулацтва, а ці кулака можна назваць чалавекам? „Кулацтва люта супраціўлялася ажыццяўленню калектывізацыі. Кулакі вялі злосную агітацыю супраць калгасаў, знішчалі калгасную маёмасць, забівалі камуністаў і камсамольцаў, актыўных калгаснікаў. Кулакі арганізавалі ўзброеныя бандыцкія групы, нападалі на беднякоў і сярэднякоў, якія ўступілі ў калгасы" (с. 196). Ці на такія зверствы кулацтва спакойна магла глядзець савецкая ўлада? — спытае неўзабаве настаўнік вучня ў менскай школе.

Малаважна, што адкажа вучань, важнае, што падумае. Ад гэтага, як будзе думаць, залежыць ці наступнае пакаленне беларусаў выхоўвацца будзе на падручніках пісаных Абэцэдарскімі, Баранавымі, Паўлавымі, ці сумленнымі гісторыкамі.

**Яўген Міранові**ч

# ТОЛКУ МАЛА БУДЗЕ

**Слова РЫГОРА БАРАДУЛІНА, народнага паэта Беларусі**

Савецкая ўлада, камуністычная партыя, карныя органы павінны перад Беларуссю, і ў першаю чаргу перад беларускай мовай, прызнаць сябе віноўнікамі за фізічны і духоўны генацыд. Правапераемнікі павінны сплаціць доўг беларускай мове, беларускай культуры, духу беларускаму. А на яве мы бачым, як дадушваецца, забіваецца ўсё беларускае — ад школы да кнігавыдання — ад дымавой заслоны антыканстытуцыйных рэферэндумаў, пастановаў, указаў. Рэферэндум наўмысна заблытана ставіў пытанні: за які герб — за новы ці за стары? Шмат хто палічыў старым бээсэсэраўскі, падпраўлены пад прычоску куміра, а новым — Пагоню. Тое ж самае і з бел-чырвона-белым сцягам і камуна-мусульманістым. А наконт мовы дык наогул быў учынены гвалт. Пытанне было пра роўныя правы расійскай і беларускай мовы, хоць усё нагадвала казку, дзе біты нябітага вязе. А пасля рэферэндуму ўсе сродкі масавай інфармацыі ў адзін голас закукарэкалі, што беларускі народ адмовіўся ад сваёй мовы і пачалася яшчэ болей інтэнсіўнейшая русіфікацыя. А тут яшчэ ўказ вучыцца з падручнікаў, створаных савецкай імперыяй, антынацыянальных, вялікадзяржаўніцкіх. Зноў, значыць, дзядулі Ленін і Чайнікаў з хадакамі, Калінін, зноў старшы брат і заклятыя нацыяналісты. Хоць вучыцца ніколі не позна, але калі за школьныя і вэнэускія падручнікі садзяцца адміністранцы пад наглядам усенароднага любімца, толку мала будзе.

*Адміністранцам і абранніку*
*прыйшлось успомніць алфавіт,*
*бо быццам на патэльні дранiку*
*былы вярнуўся апетыт.*
*Назад імперскія падручнікі*
*прасіць, а новыя із'яць.*
*І застаецца яшчэ наручнікі*
*на ўсю дзяржаву накаваць.*
*Мяняе мудры дэкарацыю*
*ды есць маскоўскія сачні,*
*каб стаць суб'ектам федэрацыі,*
*мець у запасе лёс Чачні.*

Жыве Беларусь!

**Ад рэдакцыі:** Гэтае выступленне прагучала па Радыё „Свабода" 18 жніўня г.г. Загаловак прыдуманы намі.

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 нумары)*

## Хаўруснікі

Дзеянні партызанска-бандыцкіх груповак прывялі ў другой палове 1943 года да жорсткага канфлікту паміж польскімі ды савецкімі партызанамі. З пачаткам гэтага ж года пачала ў нас арганізавацца польская партызанка, якую людзі называлі легіёнамі (відаць, былі гэта групоўкі падначалення Арміі Краёвай). Першапачаткова абедзве групы супрацоўнічалі паміж сабою і разам рабавалі беларускіх сялян.

Аднойчы атрад польскіх легіянераў адправіўся за колішнюю ўсходнюю мяжу за правіянтам. Там у былых калгаснікаў знайшлі яны па дзве і больш кароў, свіней і коней. Доўга не чакаючы забралі яны ў кожнага селяніна па карове, кані і свінні ды вярнуліся на сваю базу. Неўзабаве ў польскім камандаванні з'явіліся камандзіры савецкіх партызан і сталі патрабаваць вярнуць сялянам рэквізаваную жывёлу ды забараняць ім перасякаць былую польска-савецкую мяжу. У адказ польскія партызаны заявілі, што калі за мяжою знаходзіцца савецкая тэрыторыя, тады саветы незаконна дзейнічаюць на польскай зямлі. У сувязі з гэтым забаранілі яны савецкім партызанам праводзіць грабяжы мясцовых беларускіх сялян. Пасля некалькіх дзён (а было гэта ў верасні або кастрычніку 1943 г.) камандаванне савецкіх партызан паклікала польскіх камандзіраў на перагаворы ў Налібакі. Гэтыя апошнія явіліся ў суправаджэнні атрада сваіх легіянераў, але саветы падрыхтавалі засаду і ўсіх іх перабілі (больш за 150 чалавек). На базе астаўся толькі адзін шwадрон пад камандаваннем капітана Станіслава Нуркевіча. Даведаўшыся аб крывавай расправе над саратнікамі, падаўся ён у Івянец да пачаў перагаворы з немцамі. Паабяцаў ён ачысціць сваімі польскімі сіламі ўсю Налібоцкую пушчу ад савецкіх партызан. Немцы прынялі прапанову Нуркевіча і ў сваю чаргу далі яму лепшае ўзбраенне, а таксама абавязаліся не перашкаджаць у дзейнасці легіянераў, пад умовай, што тыя не будуць групава з'яўляцца ў гарады, дзе стаяць нямецкія гарнізоны. Мала таго, немцы пачалі дапамагаць у вярбоўцы новых ахвотнікаў у легіёны.

На пераломе 1943 і 1944 гадоў была абвешчана поўная дзяржаўная незалежнасць Беларусі. Першым прэзідэнтам быў выбраны Радаслаў Астроўскі, які загадаў аб'явіць мабілізацыю прызыўнікоў у Беларускую краёвую абарону. У лютым 1944 г. мабілізацыя прайшла паспяхова, а выпадкаў дэзерцірства амаль не было. Падчас гэтак званага камісійнага перагляду прызыўнікам давалася магчымасць выбару месца службы. Навабранцам прапанавалася паступіць у Беларускую краёвую абарону, беларускую паліцыю або ў польскія легіёны. Ахвотных служыць у легіёнах немцы апранулі ў польскія вайсковыя мундзіры. На шапках ды каўнярах мундзіраў красаваліся г.зв. прапорчыкі (апазнавальныя знакі) жоўта-чырвонага колеру. Абмундзіраваных і ўзброеных ахвотнікаў спецыяльны пасланец з атрада забіраў у лес.

Савецкія і польскія партызаны вялі між сабою жорсткую барацьбу. Нікога не бралі ў палон, але расстрэльвалі або катавалі на месцы. Калі легіянеры захапілі савецкага партызана, тады завязвалі няшчасніку вяроўку (або і калючы дрот) на шыю ці рукі ды цягнулі за канём па полі аж да скону палоннага. Для сялян гэты перыяд быў таксама вельмі цяжкі: удзень тэрарызавалі іх немцы ды паліцыя, а ноччу — савецкія і польскія партызаны.

У пачатку ліпеня 1944 г., калі нямецкія войскі адыходзілі на захад, польскія легіёны таксама ўцякалі перад наступленнем Савецкай Арміі. Аднак польскія падпольшчыкі не маглі адступаць адной дарогай поруч з немцамі, а толькі ехалі разам з сем'ямі ў адлегласці 5—10 кіламетраў ад галоўнай дарогі, па якой адступалі немцы. Такім чынам легіёны сталі ахоўнікамі нямецкіх флангаў ад нападаў савецкіх партызан. З апавяданняў вядомых мне асабіста легіянераў (Эдуарда Кацапуна ды Уладзіслава Гузоўскага) вынікала, што польскія падпольныя атрады сумесна адступалі з немцамі аж да межаў Варшавы і там 1 жніўня далучыліся да варшаўскага паўстання.

Камандзір легіёнаў Станіслаў Нуркевіч быў у 1961 г. арыштаваны органамі дзяржбяспекі ў Зялёнай Гуры. За злачынную дзейнасць у Стаўбцоўскім, Івянецкім і Лідскім раёнах быў ён прагаворны да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор быў выкананы. На працэс прыехала з Беларусі больш за трыста сведкаў, у асноўным члены сем'яў забітых легіянерамі сялян.

Эдуард Кацапун, які служыў у легіёнах, пасля вайны жыў у Ольштыне і працаваў на чыгунцы. Другі легіянер, Уладыслаў Гузоўскі, пасля 1956 г. жыў у вёсцы Хынаў ля Зялёнай Гуры і працаваў на вагонабудаўнічым заводзе.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# Міні-дайджэст

У канцы ліпеня г.г. у Гожаве-Вялкапольскім выйшаў першы нумар бюлетэня Таварыства „Еўрапейскае прымірэнне" пад загалоўкам „Białoruś—Bielaruś". У віньетцы выдання як эпіграф змешчаны наступныя словы: „Калі раздзяляюць нас перашкоды, а нават провы — будуем масты. Гэта заўсёды варта рабіць". На чатырох старонках фармату А-4 змешчаны перадрукі або ксераксныя адбіткі артыкулаў з польскага і беларускага друку, а таксама ўласныя інфармацыі аб гістарычных і сучасных польска-беларускіх дачыненнях ды важнейшых падзеях грамадска-палітычнага жыцця Беларусі.

У першым нумары гэтага міні-дайджэста, які выйшаў 25 ліпеня, змешчаны адбіткі ніўскіх „Вестак з Беларусі" і артыкула карэспандэнта "Gazety Wyborczej" пра візіт прэзідэнта Украіны ў сталіцу Беларусі, а таксама інфармацыі пра шпіёнскую афёру Уладзіміра Малашкевіча, будынак пасольства ў Лондане і навейшых выданні, між іншым пра выхад першага нумара „Białoruskich Zeszytów Historycznych".

Другі нумар бюлетэня ад 5 жніўня г.г. інфармуе пра фестываль „Славянскі базар" і намаганні прэзідэнта Лукашэнкі аб'яднаць былыя савецкія рэспублікі, а таксама пра адпачынак беларускай моладзі ў Польшчы. А на развароце прапануецца чытачам адбітка артыкула Крыстыны Гамулкі пра нацыянальную свядомасць беларусаў у ІІ Рэчы Паспалітай, які друкаваўся ў майскім нумары „Дыскусіі".

Польскае грамадства параўнальна мала ведае пра Беларусь, яе гісторыю і сучасныя праблемы. Вітаем тады з'яўленне бюлетэня, які прапагандзе беларускую праблематыку ў польскім асяроддзі, асабліва на захадзе краіны, а яго выдаўцам жадаем настойлівасці ў прыкладванні мастоў паміж польскім і беларускім народамі.

**(вл)**

БЕЛАВЕЖА
СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 428
Рэдактар: Сакрат Яновіч

Упершыню на нашай літаратурнай старонцы змяшчаем вершы **Юстыны Каралько** (Бельск). У дасланым пісьме яна зазначае:

*Думаю, што, калі пішаш, тады найбольш гаворыш аб сабе.*

*Дэбютавала я некалькі гадоў назад у „Зорцы". Я цікаўлюся, таксама, музыкай. У гэтым школьным годзе чакаюць мяне дыпломныя экзамены ў Музычнай школе.*

*Калі ласка, надрукуйце мае вершы без фота.*

*ЮСТЫНА КАРАЛЬКО*

* * *

час нас зняволіў
і чатыры сьцяны
абавязкі зьняволілі
і людзі
пасажыры штодзённых карэт
запрэжаных у сьлёзы
кудою цяпер
угору ці ўніз

* * *

я — як павук
на нітачцы жыцьця
на нітачцы вузлоў і петляў
на дрэве
дрэве сноў

* * *

жыцьцё
— змаганьне з сабою
з уласным адбіцьцём
страх перад тым чаго няма
і не будзе ніколі
радасьць зь нічога
смутак быццам цень
падкрадваецца за табою
жахлівасьць насоўваецца
цёмнай хмарай
нянавісьць забіла крыніцай
— любоў перамагае ўсё

* * *

хаця кветкі навокал мяне
— губляюся
непрысутных пытаю пра дарогу
і толькі рэха сваім іранічным голасам
заглушае цішыню
пераймае твой голас
вецер укладвае зь лісьця
твой твар
які пасьля разьвейвае
а я
— губляюся далей...
хаця кветкі навокал мяне

*СОФ'Я МАЙДАНСКАЯ*

*

Свае азёры чыстыя
ад мяне не адводзь,
я не купалася ў іх
і бялізны не мыла,
толькі раз напаіла
дзікае, вараное каханне
ды й памчала,
ой, ды паляцела
адна
стэпам.

Сваё жыццё
ад мяне не адхіляй.
Я ў ім адна,
як лёс,
уюся за табою,
дрыжу
кучараваю мятай,
маці,
Марыяй.

*Са зборніка „Увайдзі і ты ў гэты сабор" (Кіеў, 1993)*
*З украінскай мовы пераклаў Юры Трачук*

*БАРЫС РУСКО*

**Драпежніца**

Ноч парэзана на скрылі.
Напраскі, галопам, без памяці.
І раптам бліск.
І раптам драпежніца ў руках.
За пацалунак кропля крыві без торгу.
І чырвоная стужка бясплатна.
А потым рэкламацыя,
якую ніхто не прымае
і ніхто не ўносіць.

*ЗОСЯ САЧКО*

**2**

чы мэртвы за дня
пэрэкажэ слово жывое
учытэль которы нэ научыў сэбэ
як нас научыт
чы терпенія хватіт
на сумашэдшый дуом
которы мусіт быті сумашэдшым домом
нэ ластовкі вэсны
нэ твэрдэі зэмліэ пуд ногою
— просто суоль з розы

*(З цыкла „Будні")*



Мал. Міколы Давідзюка

*ВІКТАР ШВЕД*

# Дыктоўка

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Наш шосты клас беларускай дзесяцігодкі ў Орлі ў 1940 годзе быў найвышэйшым; поўнай сярэдняй школай дзесяцігодка мела стаца толькі праз чатыры гады. Школа размяшчалася ў трох старых, драўляных, аднапавярховых дамах, распаложаных на адным панадворку, пабудаваных яшчэ ўладамі царскай Расеі, з прызначэннем на валасную бальніцу. У школе ўсе прадметы вяліся на беларускай мове. Настаўнікаў, добра валодаючых беларускай мовай, прывезлі з Савецкай Беларусі, а мясцовых, яшчэ ў папярэднім навучальным годзе, абавязалі да пераходу на беларускую мову навучання.

Наш шосты клас, налічваючы каля трыццаці вучняў, складаўся ў палове з жыдоўскай арлянскай моладзі. Другая палова — гэта дзеці мясцовых сялян і дзеці сялян навакольных вёсак. І толькі некалькі асоб было польскай нацыянальнасці.

На перапынках у школе чуліся тры мовы: жыдоўская, беларуская дыялектная і польская. Паміж вучнямі розных нацыянальнасцей былі сяброўскія адносіны.

Запомніўся мне таленавіты вучань, прыродны танцор Вернік Шыя, які нават у клас уваходзіў танцавальным крокам. На сцэне ён заўсёды выконваў беларускія народныя танцы „Лявоніху" і „Крыжачок".

Многа радасці ў класе выклікалі нізкарослыя блізнюкі — Хаім і Янкель Гальперны, сыны арлянскага рабіна. Прыходзілі яны ў школу прыгожа апранутыя, у аднолькавых касцюмах і кашулях. Былі так падобнымі да сябе, што настаўнікі не маглі іх адрозніць. Калі выклікалі да дошкі Хаіма, ён выпіхаў з парты брата Янкеля, які быў мацнейшы ў навуцы. Здарыўся, аднак, у нас і адзін хуліганскі інцыдэнт. Вясковыя хлопцы, якія найчасцей пасілкаваліся салам з чорным хлебам, на перапынку недзе ў куточку злавілі Хаіма і Янкеля Гальпернаў і сілком пашмаравалі блізнюкам вусны тым салам. Бедныя хлопцы страшэнна плакалі і насоўкамі выціралі да крыві губы.

Я заўсёды сядзеў за адной партай са страшэнна тоўстым Янкелям Шумахерам. Янкель мяне, найчасцей галоднага, частаваў смачнымі булкамі з макам.

Настаўнікам беларускай мовы быў у нашым класе Пётр Кароткі. Ён, насуперак свайму прозвішчу, быў якраз „доўгі", рослы малады мужчына, з празрыста-бледным сухотным тварам. Прыехаў ён да нас з глыбі Беларусі ў надта старэнькім, зношаным да крайнасці касцюме. Пётр Кароткі быў ужо так хворы ад сухотаў, што на ўроках безупынку хархотна кашляў.

На ўсё жыццё запамяталася мне дыктоўка, якую праводзіў з намі ён, наш настаўнік мовы. Была якраз субота і многія вучні жыдоўскай нацыянальнасці не прыйшлі ў школу. Ды і тыя прысутныя на занятках не хацелі пісаць. Ім за гэта ставіліся двойкі. Янкель Шумахер падсунуў мне пад нос свой сшытак з просьбай, каб напісаў я яму дыктоўку. Я, вядома, згадзіўся. З беларускай мовы меў я пяцёркі і мне не цяжка было напісаць дыктоўку адначасова ў двух сшытках. Шумахер, надта задаволены, уручыў настаўніку свой сшытак. Той з недаверам задаў пытанне: „Гэта ты сам напісаў?" Шумахер пацвердзіў. Тады настаўнік выклікаў Шумахера да дошкі і пачаў дыктаваць яму тэкст. Збянтэжаны Янкель не дакрануўся нават да крэйды. Вымушаны ён быў прызнацца, што гэта я напісаў яму дыктоўку. Знерваваны настаўнік паставіў нам абодвум двойкі. Мы заплакалі.

Позняй восенню нашага настаўніка, вельмі ўжо хворага, адправілі ў беластоцкую бальніцу, дзе ён неўзабаве памёр.

Не меў я жалю да свайго настаўніка. Ягоная нечаканая смерць так балюча ўскалыхнула мною, што я напісаў верш „Памяці Пятра Кароткага":

Сёння з песняю сіроцкай
Вестку нам прынёс прастор,
Што ў бальніцы беластоцкай
Пётр Кароткі ўжо памёр.

Назаўсёды нас пакінуў,
Больш не будзе ўжо вучыць,
Надта маладым загінуў,
Адышоў ў зямлі спачыць.

І няма на свеце сілы
Каб яго к жыццю падняць,
З цёмнай вывесці магілы,
— Я жыву — каб мог сказаць.

Ён не вернецца ніколі
У наш клас, на школьны двор.
Поўна ў нашых сэрцах болю,
Ён памёр ужо, памёр.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Прапанова „Зоркі”

Зноў пачынаецца новы навучальны год. Шасцігодкі ўрэшце стануць сапраўднымі вучнямі, другакласнікі пачнуць вывучаць беларускую мову, а самыя вялікія — васьмікласнікі — будуць думаць пра далейшую вучобу. З вялікай цікавасцю вы прывітаеце новых настаўнікаў, а можа і новых вучняў у сваім класе. „Зорка” таксама мае вам новыя прапановы.

У новым навучальным годзе зноў будзем сустракацца. Хачу аднак адзначыць, што ў першую чаргу будзем цікавіцца чытачамі „Зоркі”. Усім прыхільнікам беларускага слова наша рэдакцыя будзе арганізаваць цікавыя конкурсы, мастацкія сустрэчы і мерапрыемствы.

Калі ў вашай школе будзе вялікая колькасць чытачоў, мы супольна будзем рэдагаваць асобныя нумары нашай газеты. Разам задумаемся, што варта змяніць, а што пакінуць. Добра было б зацікавіць супрацоўніцтвам старэйшых вучняў. Для іх публікавалі б мы інфармацыі пра цікавыя сярэднія школы.

Усё залежыць ад вас, дарагія сябры!

Калі вы намовіце бацькоў на падпіску „Нівы”, напэўна не пашкадуеце. Хаця будуць і такія, што перапалохаюцца новага выдатку, хачу вас запэўніць, што ўзнагароды „Зоркі” напэўна зраўнаважаць гэтую затрату. Хачу таксама адзначыць, што „Зорка” з'яўляецца самай таннай дзіцячай газетай у Польшчы. Месячная падпіска (калі падпісвае яе большая колькасць вучняў) каштуе толькі 2 злоты. За гэта вы атрымаеце 4 або 5 нумароў „Зоркі”, а „Ніву” занясеце сваім бацькам.

Зорка

P.S. Пра падпіску пытайце ў настаўнікаў беларускай мовы.



*Шасцігодкі ўрэце стануць сапраўднымі вучнямі. На здымку дашкольнікі з Ягуштова.* **Фота М. Ваўранюка**

## Што цікавага здарылася ў час канікул?

Шасцігадовая Оля Купрыяновіч кожныя канікулы прыязджае ў Козлікі. Там жывуць родныя дзяўчынкі, бабуля і дзед.

— Няма большай радасці калі прыязджае да нас Волечка, — гаворыць бабка Яўгенія.

Сумна жывецца старым людзям без сваіх дзяцей, унукаў. Толькі і выглядаюць, калі наведаюць іх родныя. А калі ўрэшце з'яўляюцца каханыя ўнукі, вясковыя хаткі зноў напаўняюцца смехам, гоманам, плачам.

— Раней мы з Оляй размаўлялі па-польску. Але яна сама нас папрасіла: „Гаварыце па-вясковаму, то і я ад вас навучуся”, — успамінаюць дзед і баба.

— Оля не толькі добра размаўляе на мясцовым дыялекце, але і цікавіцца ўсім, што навокал. Добра, што дзед дзяўчынкі ведае шмат цікавага. Ад яго Оля пачула гісторыю пра крыж, які стаіць у Купрыяновічаў на панадворку.

— Гэта было даўно, даўно, чуць не сто гадоў назад. Тут дзе жывем, пражывалі нашыя продкі. Твой, Олю, прадзед быў маладым хлопцам. У яго былі яшчэ два браты. Адзін з іх хацеў стаць настаўнікам. Пайшоў у школу. Знаходзілася яна ў Стаўку каля Трасцянкі. Гэтая школа была роўная сённяшнім ліцэям. Праўда, да сёння следу па ёй не асталося, а толькі адны ўспаміны. У Стаўку вучыліся многія хлопцы з нашых вёсак.

— Дзедку, а тады было многа дзяцей у вёсцы? — перапыніла расказ задуманая дзяўчынка.

— Ого, тады ў кожнай вёсцы была свая школа. Дзяцей было столькі, што палічыць людзям было цяжка. І школы былі іншыя. Усе ўрокі вяліся на рускай і старaславянскай мовах. У такой школе працаваў адзін настаўнік. Такім настаўнікам быў і наш продак. Доўга аднак не пажыў на волі хлапец. У 1904 годзе ўзялі яго ў царскую армію. Перад адыходам у войска наш настаўнік паставіў гэты мураваны крыж. „Калі не вярнуся жывы, хай хаця крыж па мне астанецца”, — сказаў ён родным і вяскоўцам, што праводзілі яго ў армію. Пазней былі страшныя часы. Усіх жыхароў Козлікі і навакольных вёсак пагналі ў „бежанства”. Людзі на фурманках ехалі аж у Гродна, а адтуль, ужо цягніком, развозілі іх па ўсёй Расіі. І тады яшчэ наш прадзед сустрэў свайго брата настаўніка. Але ў Козлікі ён не вярнуўся. Найхутчэй загінуў у час рэвалюцыі. Ніхто не ведае, дзе яго магіла. Але ў нашай сям'і не забылі настаўніка-жаўнера. І гэта дзякуючы ягонаму крыжу, — закончыў свой расказ дзед.

Усе мы слухалі апавядання пра крыж. Сёння ён стаіць у маленькім агародчыку, сярод каляровых кветак. Асаблівую ўвагу прыцягвае дата — 14 жнівень 1904 год. Гэта ж 91 гадоў назад, а крыж стаіць як новы. Цяпер многія прыезджыя цікавяцца гэтым помнікам.

Калі прыходзіць лета, у Козлікі прыязджае процьма турыстаў. Вёска вельмі прыгожая. З аднаго боку стаіць цёмны лес, з другога — плыве рака Нарва, якая тут падзяляецца на дзве рэчкі. У канцы вёскі знаходзіцца сіняя прыгажуня — царкоўка і могілкі. Крыху за вёскай стаіць стары драўляны вятрак. Не дзіва, што з'язджаюцца сюды і многія дзеці. Апрача адпачынку могуць яны пазнаваць сваіх продкаў, як Оля Купрыяновіч з Беластока.

Зорка
Фота Г. К.



*Оля Купрыяновіч.*

## Вершы Віктара Шведа

### Мой тата наяву мае толькі галаву

— Ты падрос ужо, сынок,
Шосты распачаў гадок.
Маеш таты вусны, нос,
Колер татавых валос.

— Вельмі ж цяжка разгадаць,
Які тату колер даць.
Бо мой тата наяву
Мае толькі галаву.

### Птушка быццам гадзіннік

Летняй парою з матуляй
Прагульваецца Алеся.
І нечакана зязюля
Закукавала у лесе.

У захапленні малая
Адазвалася да маці:
— Нейкая птушка спявае,
Як наш гадзіннік у хаце.

### Лёва не стрымаў слова

— Прысягаў дамоў вярнуцца
Па зянятках нечакана.
Калі ўсе прысягі рвуцца —
Будзеш сёння пакараны.

А непаслухмяны Лёва
Адказаў на гэта маме:
— Калі не стрымаў я слова —
Можаш не стрымаць таксама.

### Мышкі-ўвішкі

Сімка з Міськай лапка ў лапку
Поруч селі на канапку.
Мышка Сімка вяжа шапку,
Мышка Міська месіць бабку
Бабцы-мышцы Цап-Царапцы.

### Кусі бульдозер!

Бульдог на бульдозер глядзіць.
Бульдогу у вушах бурчыць,
І чхае бульдог, і хрыпіць —
Надта ж бульдогу дыміць
Бульдозер; у пашчы шчыміць
Той бульдозер бульдогу ўкусіць!
Забрахаць! Забулькаць! Завыць!

Міра Лукша

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Размаўляюць дзве сяброўкі, вучаніцы VIII класа.

— Сёння, амаль цэлым класам, ідзем у кіно. А ты што, Аня, сёння рабіць будзеш? — пытаецца сяброўка.

— Я?

— Пэўна зноў табе трэба будзе за ўвесь клас рашаць матэматычныя задачы!

* * *

— Калі хочаце пахудзець, мусіце трымацца дыеты. За дзень вам можна з'есці толькі два кілаграмы бульбы, — павучае стакілаграмных слухачоў спецыяліст па харчаванню.

— А колькі кілаграмаў сала трэба дадаць да гэтага? — пытаецца зацікаўленая цётка.

* * *

— Дзядзька, калі я пайду ў школу, буду ўсё ведаць? — пытаецца малы Янка.

— А мне, сынок, адкуль гэта ведаць?

* * *

— Добры дзень! Я буду вашым новым выхавацелем, — заявіў новы настаўнік вучням пятага класа.

— Ці гэта абазначае, што будзеце нас па-новаму выхоўваць? — пацікавіўся Янка.

АА

# Сцяна — III

*— Калі мы праходзілі праз Алексічы, Паўлы ці Козлікі, то кожны сам мог пераканацца, што на бруку ўжо расце трава. Зусім як у песні „Айчына-маці" Крыстафора Сяськевіча,* — гаварылі ўдзельнікі рэйду „Сцяна — III".

У днях 6—11 жніўня г.г. Звяз беларускай моладзі арганізаваў рэйд „Сцяна".

— Калі ў мінулым годзе ішло пяць—дзесяць асоб, то зараз *правінулася* звыш трыццаці ўдзельнікаў. Праўда, палова з іх прыязджала на дзень—два, або толькі на вогнішча, — гаворыць Павал Даўжынскі, арганізатар мерапрыемства.



*Багдан Сіманенка (прэзідэнт ЗБМ) і Тамаш Андраюк прыдавалі рэйду магутнасці.*

Пры нагодзе варта адзначыць, што сярод моладзі, асабліва студэнтаў, наступіў занепад беларускіх вандровак. Старэйшыя басаўцы абышлі Беласточчыну ўздоўж і ўпоперак, а іх малодшыя сябры не зацікаўлены прадаўжаннем ідэі „Бацькаўшчыны". Калі дадаць, што ў ліпеньскай „Бацькаўшчыне" ішло толькі чатыры асобы, то і каментарый зусім непатрэбны.

— Наш рэйд мае ўжо іншы характар. Мэтай з'яўляецца сяброўская турыстыка. Пры нагодзе мы пазнаем цікавыя мясцы Беласточчыны. Раней думалі пра інтэграцыю з мясцовым насельніцтвам, але гэта не прынясло ніякіх змен ні карысці, — гаворыць звязаўцы.

Быццам у пацвярджэнне апошніх слоў дзяўчаты расказалі такі вось факт:

— У К. не хацелі прадаць нам памідораў. Яшчэ ў іншай вёсцы занадта цікавіліся намі старыя кавалеры. Дзеля бяспечнасці маршрут зышоў з раней запланаванага шляху (гэта адчулі асабліва тыя, што хацелі „злапаць" рэйд у дарозе і карысталіся інфармацыйным плакатам). Калі гэтаму бліжэй прыглядзецца, дык відаць, што многа віны вынікла з прычыны неразумення.

— Ішлі такія з польска-чырвоным сцягам, — гаварылі ў вёсцы, дзе былі клопаты набыць памідоры.

Большасць удзельнікаў карысталася польскай або беларускай літаратурнай моваю. Жыхары падляшскіх вёсак проста не здагадаліся, што гэта ідуць сябры іх беластоцкіх ці бельскіх унукаў. Песні, якія спявалі звязаўцы, яшчэ больш маглі насцярожыць жыхароў вёскі. У іхнім рэпертуары не было ж мілагучнай савеччыны ці шэдэўраў бэгэкатоўскіх аглядаў. А калі пачынаў спяваць свае песні лідэр „Кардону" Крыстафор Сяськевіч, а разам з ім усе ўдзельнікі рэйду, вяскоўцы маглі б палічыць гэта эстэтычнай правакацыяй.

Калі затрымацца яшчэ хвілінку пры песні, то варта адзначыць, што Звяз беларускай моладзі абагнаў у гэтай галіне ўсе выступаючыя на Беласточчыне гурты і *калектывы*. Свежым подыхам ёсць не толькі творчасць Крыстафора Сяськевіча (якога „Айчына-маці" і „Чарнобыль-радыяцыя" былі хітамі рэйду), але і бесканкурэнтны „Бельск", якога за некалькі месяцаў здолеў вынайсці і развучыць Юрка Асеннік. Мова тут пра групу ліцэістаў, паклоннікаў беларускай эстэтыкі (пра іх я пісала ў артыкуле „Гулянне ў Студзіводах", „Ніва" н-р 2045). У іх выкананні чароўна гучаць народныя песні з рэпертуару „Ліцьвіноў" ці „Полацка". І як мне здаецца, на Беласточчыне не маюць яны ўжо сабе роўных.

Не толькі песні стваралі свой асаблівы, звязаўскі клімат.

— Калі не хапала месцаў у палатках, хлопцы будавалі шалаш і калі рабілася холадна, аддавалі сваю вопратку, — хвалілі сваіх сяброў дзяўчаты, якія складалі невялікую, але прыгожую частку рэйду.

Заўсёды, і ў дарозе, і на месцы адпачынку ўдзельнікам „Сцяны" спадарожнічаў бел-чырвона-белы сцяг.

— Гэта наш *ідэнтыфікацыйны* (апазнавальны) знак, — адзначыў старшыня ЗБМа Багдан Сіманенка.

**Тэкст і фота**
**Ганна Кандрацюк**



*Свой гімн звязаўцы спяваюць у стойцы „зважай".*



*Сярод вандруючых — мастадонт беларускіх рэйдаў Славамір Іванюк.*

<u>З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ</u>

## Як адбіваліся нашы продкі ад крыжацкае навалы

XIII стагоддзе сталася часам сур'ёзных выпрабаванняў для многіх еўрапейскіх народаў і дзяржаў. На славянскія землі з поўдня абрынуліся незлічоныя орды стэпавікоў, а з захаду распачалі экспансію крыжакі.

Гэта былі рыцары з усёй Заходняй Еўропы, якія пасля няўдалых паходаў у Палесціну (з мэтай „вызвалення Божай Дамавіны") імкнуліся захапіць новыя землі. Адным з першых прыняло на сябе іх удар балцкае племя прусаў. І было вынішчана, а рэшта — анямечана. Імкнучыся адсекчы Полацкае княства ад мора, у 1201 годзе крыжакі ля вусця Дзвіны заснавалі горад Рыгу (дарэчы, паводле В. Ластоўскага, „рыга", або „рыгво", на старабеларускай мове азначае „вусце ракі"). З таго часу пачаўся іх ціск на Полацкую зямлю і іншыя старажытнабеларускія землі. У 1208 годзе яны захапілі полацкі горад Кукейнос — уладанне князя Вячкі, у 1209 — Герсіку, падыходзілі пад сцены Полацка. У адказ полацкі князь Уладзімір знішчаў іхныя ўмацаванні пад Рыгаю і Гольмам. Разам з наўгародцамі палачане білі крыжакоў на Няве ў 1240 годзе, а затым на Чудскім возеры ў 1242 годзе.

Гэтаксама і валадары новай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — ад Міндоўга да Вітаўта мусілі змагацца з крыжакамі. Ледзь не штогод на працягу амаль трох стагоддзяў сутыкаліся ў бітвах беларускія і крыжацкія войскі. Напрыклад, толькі ў часы княжання Альгерда (1341—1377) налічваецца блізу сотні набегаў крыжакоў на Беларусь і трыццаці паходаў беларускага войска ў адказ. У некаторых паходах нашае войска налічвала да 30 тысяч ваяроў.

Асаблівай мужнасцю і ваярскім майстэрствам вылучаўся князь Давыд Гарадзенскі. Шмат гадоў ён паспяхова адбіваў напады і наводзіў жах на крыжакоў і іх памагатых. У 1314 годзе, калі немцы напалі на Навагародак, Давыд з невялікім войскам падпільнаваў іх і ледзь не палову перабіў, захапіўшы паўтары тысячы коней і нарабаванае дабро. Прайшоўшы крыжацкім шляхам ад Навагародка ў адваротным накірунку, гарадзенскі князь знішчыў усе варожыя базы. Тым самым адступленне недабітых рабаўнікоў ператварылася ў панічныя ўцёкі. У 1319 годзе Давыд Гарадзенскі з 800 вершнікамі ўварваўся ў Прусію, захапіў некалькі славутых рыцараў-камтураў разам з іх майном. Неаднойчы ён хадзіў на дапамогу Пскову. У 1322 годзе разам з пскавічамі Давыд разбіў вялікае нямецкае войска. Было знішчана пяць тысяч крыжакоў. Падчас далёкіх паходаў Давыд Гарадзенскі вёў з сабою параўнальна невялікія аддзелы. Так, у паходзе на Брандэнбург у 1326 годзе ўдзельнічалі 1200 чалавек. Гарадзенцы дайшлі да Франкфурта-на-Одэры. Не могучы перамагчы князя на пабаявішчы, крыжакі нанялі польскага ваяра Анджэя, які па-здрадніцку забіў Давыда Гарадзенскага нажом у спіну.

У 1410 годзе аб'яднанае войска Вялікага Княства і Польскага Каралеўства дало рашучы бой крыжакам пад Грунвальдам. Гэта была найвялікшая бітва ў тагачаснай Еўропе, дзе сустрэлася блізу 80 тысяч чалавек. Ордэн быў разбіты ўшчэнт. Загінуў і крыжацкі магістр, камтуры, увесь цвет рыцарскага войска. Хоць пэўны час ордэн яшчэ існаваў, толькі аднавіць былую моц крыжакі ўжо не здолелі. З гэтага часу знікла пагроза з іх боку для земляў усяе Усходняй Еўропы.

*(Паводле „100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі")*

Працяг са стар. 1


Аляксандр Бірыцкі

# Ніякі торт так не смакаваў

і французы, і немкі, што мужыкоў на фронце мелі. Гаспадар усё рабіў, і трактар меў. Потым нас перавялі ў іншую хату, дзе жыло чатыры сям'і. Была там кухня, пакоік, калідор і горка; баўэр даў нам ложкі. Так жылі там два гады. Перад фронтам усіх жанчын з дзецьмі вывезлі ў Нямеччыну. А хто меў зямлю, той не меў прыказу, каб уцякаць. Гаспадаровы вазы ўжо стаялі нарыхтаваныя, змазаныя, са стальвагамі, прыкрытыя фанерай — гатовыя да ўцёкаў. Даў мне каня, сядло і карткі — прыказы, каб уцякаць — каб я развёз іх па калоніях. Развёз, прыязджаю, стаяць тры вазы, у кожным па чацвёра коней — сам гаспадар збіраецца выязджаць. Адзін воз з мяхамі аўса. Усё, што лепшае пабраў. Коні падкаваныя, сёдлы, бічы. Кучарамі мой тата і французы — Юзэф, што быў трактарыстам і Арно, што свінні карміў. Таго Юзэфа, у якога мы жылі напачатку, пагналі на фронт акопы капаць. Французы жылі за кратамі, вахмана мелі. Тата стаіць пры конях, а французы ў падвал, дзе малако трубамі з вадою халадзілі, падаліся — не хочуць ехаць. Прыехаў сусед Выгнэр ў капелюшы з пяром з трыма дачкамі. Вечар. Гаспадар п'яны. Выгнэр крычыць: — Шысэн! Шысэн! — страляй, як не хочуць ехаць. Я стаю каля воза, дзеці ў воз палезлі, гаспадыня плача: — Ach, Gott! Ach, Gott! А тыя французы стаяць, з іншымі французамі перагаворваюцца; ведалі яны, што рускія ўжо блізка. Ноч, туман. Раптам чуем „кацюшу". Французы разбегліся. Выпраглі мы коней. Ідзе бой; неба агнём гарыць. А народу набілася: немцаў, уцекачоў; і ўсе ў падвал. Цэлую ноч гуло і над ранам сціхла. Жыў у двары Швайцэр з Астралэнкі, яго жонка дзіця нарадзіла. Мама з татам забралі нас да іх. У нашу хату ўваходзіць баец — разведчык, а за ім яшчэ. — Хто хазяін, выхадзі, — крыкнуў ён; малы быў, з аўтаматам. Выйшла Тоська з Ваўкавыска: — Я не хазяйка, хазяіна тут нет, — кажа. — Вядзі! — кажа баец. Пайшлі Тоська і малы баец. — Выхадзі! Першы баўэр выйшаў, за ім Выгнэр. Гаспадар руку байцу падаў. Пайшлі з баўэрам на падворак. А тут ужо і дзесяць коннікаў: усе ў белым. Далі ім есці і піць. Коней паставілі не прывязваючы і коні стаялі. Праз гадзіну-дзве ўжо поўна саветаў, як камарні летам. Ішлі, ішлі, і канца не было. Шукалі толькі ўласаўцаў і ўкраінцаў, а немцаў (фрыцаў) — не. У нас былі два парсюкі, каб сабе карміць; гаспадар даваў восыпку, картофлю. Даваў таксама карову трымаць, але мама не схацела, каб не даіць. То мы рана закалолі таго парсюка, бо раней баўэр не дазваляў калоць абы-якога, малога: вымагаў, каб добра ўкормлены быў. Мы шыкаваліся да выезду, ці то з баўэрам, ці без яго. Мяса тата парубаў і ў бочку; салілі або і не, бо мароз быў. І качкі, і гусі пячаныя былі. І коней поўна, але баўэра коней ужо няма. Знайшлі тата двое коней. Баўэр кажа, каб аставаліся разам жыць, даў ключы ад складоў. А мы запраглі коней у нямецкі, але не ў гаспадароў, воз. Палажылі пару мяшкоў аўса, падушкі і ўсё сваё дабро.

Едзем. Хто быў самотны, той ішоў пяшком з валізачкай у руках. Даязджаем да горкі, коні слабыя, не могуць уцягнуць воз пад горку. А снедала ў нас двух танкістаў, гусеніцы папсаваліся. Недалёка была вёска Шэнвальдэ; савет дае тату гранату ў рукі і кажа: — Иди, бери лошадей. Тата не хацеў ісці то яны пайшлі. Прыводзяць дзве кабылы прыгожыя, жаробныя; і стальвагу прыносяць. У кожным дышлі гак стальвагу чапляць. Едзем далей, перад намі вёска гарыць, аб'ехалі бокам. За вёскай дол, а далей гара. У доле рускі абоз. Пад'язджае трох і выпрагаюць нашых коней. Усе чатыры коні аднялі, а нам аставілі двое сваіх. Пешалі ідуць, а мы з Ядвігай з Крыпна стаімо. Залажыў тата тых коней, а яны і варухнуцца не могуць. То мы хлеб у адну посцілку, качкі і масла ў другую, закідаем посцілкі на коней, кідаем воз з мясам і далей ужо пяшком ідзем. А па дарозе коні пабітыя ляжаць, танкі, самаходы. А рускіх поўна: і ў самаходах, і на фурах, і пешыя. Быў двор, у якім знаёмы ветэрынар жыў. Заходзім туды, вячэра на сталe стаіць, а ў хаце жывой душы няма; відаць прыйшлося ўцякаць і так як сядзелі так і ўцяклі. Заходзім у стайню, а там коней поўна. І шыткі крашаныя стаяць. То мы накралі пярын, а другога каня ў сані з аўсом запрэглі. Едзем. Спатыкаем Валодзю з Міхнаўкі — ён з валізачкай з Ольштына ішоў. Сядае і едзе з намі. Ехаў нейкі самаход, то ён на той самаход. Кажа: — Заеду ў Ляўкова, то скажу, што вы ўжо ў дарозе. Ехалі так мо два дні да старой граніцы. А трупаў цывільных поўна на дарозе ляжала. Зайшлі ў адну нямецкую хату пагрэцца, а там тры трупы на падлозе ляжаць. А ў другой хаце начавала нас мо з дваццаць чалавек; прыйшоў п'яны савет і нас усіх пад сценку, а другі прыйшоў і яго ў патыліцу: — Что ты делаешь! То зноў у дарозе ўвесь правіянт нам павывальвалі. Абозахапіў адзін каня за абротку і ўсё масла нам забраў. На дзяцей увагі то яны не звярталі. П'яныя ўсе былі: на тысячу то можа адзін цвярозы быў. Жыццё ўвесь час вісела на валаску. Хаця і спагадлівыя людзі трапляліся. Адзін папрасіў у нас хлеба: — Не могу, — сказаў, — смотреть на то, что они делают. А іншы зноў раіў нам спаліць усе дакументы, бо за паперы, казаў, расстраляць могуць. На старой польска-прускай граніцы быў прапускны пункт. Бацька зайшоў туды а баец кажа яму: — Дай чобаты мне, або аддай дзіцяці, бо табе забяруць. Я надзеў тыя чобаты. А на той граніцы поўна пярынаў, гурбы вопраткі ляжаць; саветы так забіралі. Нам свойскія маміны дываны выкінулі. І коніка аднаго нашага забралі. Мінулі мы той прапускны пункт і едзем на Вышкаў — на Астралэнку не кіравалі. А мароз, мароз! Уехалі ў раскоп, а насупраць нас „вілюс". Вылезлі з яго саветы, усё з нашай фуры вывалілі, а нас павялі ў роў. Патрабавалі ад нас дакументаў, а тых мы не мелі, бо немцы паўгода да прыходу фронту забралі. Трымалі нас шасцёра, з Ядвігай, доўга, мо з паўгадзіны на марозе, але адпусцілі. У якойсьці вёсачцы пераначавалі і раніцай паехалі далей. Затрымоўваюць нас двух байцоў, выкідаюць усё нашае з саняў, сані забіраюць, а нам пакідаюць свой воз з паламанымі аглоблямі. А ў нас толькі малыя саначкі. Знайшлі нейкія сані і едзем далей. А далей асфальт. Да Вышкава палазы і шыны здзерлі. Перапрэглі каня ў саначкі. А мароз цісне і ніхто нанач не прымае: іншы народ, чым у нас! Аднаму гаспадару бацька аддаў кабылу, лейцы і шлеі, то за гэта маглі на голай падлозе ноч праляжаць. За сланіну бацька ўзяў у яго яшчэ гарэлкі. Выйшлі мы з хаты, а на двары мароз і завіруха. Выйшлі на шашу да Остру́ў-Мазавецкай. Затрымоўваем самаход — забіраюць нас за гарэлку і сала, але зараз жа тут і выкінулі. Ідзем мы зноў пяшком. Перад намі вёсачка, навокал цёмна, ноч. А на двары мяцеліца, мароз — сабакі не выгнаць. Мы ў тую вёсачку. А там рускі штаб стаіць і не пускаюць — нельзя! На канцы да аднаго гаспадара дабіліся. — Nie gadajcie, — сказаў, — і на досвітку ўцякайце, каб ніхто вас не бачыў, а то пастраляюць. Далей зноў нас падвёз рускі самаход. Зайшлі мы з байцамі ў адну хату, там сядзеў нейкі чалавек і галушкі еў. Убачыў нас і давай вызываць ад кацапаў. То мы з тымі байцамі выйшлі. Дабіліся неяк да Астрові-Мазавецкай. Правіянту свайго ўжо не мелі. Ліда з Ядвігай пайшлі і дзесьці бульбы дасталі. Мама вады ў саган наліла, укінула тых пару бульбаў і зварыла. Закрасіла нейкімі скваркамі і ўсе з'елі. Вельмі смачнае было — ніякі торт ніколі так не смакаваў.

Ідзем далей. На шашы будка стаіць, а ў ёй баба ў мундзіры. Пытае куды мы ідзем. Адказваем што ў Беласток. То яна дзяцей забрала да сябе ў будку, выпісала пропуск і кажа: — Затрымаю самаход і вы даедзеце ім аж у Беласток. Падыходзіць першы самаход, адкрыты, з бартамі толькі — сядаем мы на яго. Прывёз ён нас аж на Варшаўскую. Развіталіся з Ядвігай і пайшлі да Антося Паўлюсевага. Далі нам есці і пасадзілі ногі парыць, бо аж папухлі ад марозу. Трое сутак так там сядзелі. Тата пяшком пайшоў у Ляўкова, а за намі потым дзед з дзядзькам Семаковічам санямі прыехалі. Пытаем пра Валодзю, што меў самаходам раней ад нас прыехаць. А пра яго няма ні слыху, ні дыху. Пасля даведаліся, што яго саветы з самахода ў армію забралі і павезлі ў Расію. Прыехалі мы ў Ляўкова а тут толькі вада свая. У хаце падчас вайны то Ахрымюк жыў, а цяпер стаяла пустая. І хлеў стаяў, і клуня. Елі мы ў Федзі; ён таксама ў палоне быў, у Ольштыне ў фабрыцы працаваў, кармілі яго ліха. То мы яму есці давалі. Потым ён захварэў і яго адправілі назад у Ляўкова. Цяпер ён нам памагаў выжыць. Была ў нас супольная на дзве сям'і карова. Пайшла яна да рэчкі ваду піць і ўлезла на міну і разарвала нашу апошнюю кароўку. Пайшоў бацька ў лес працаваць, то давалі кашу, кансервы. Трачаваў у людзей, то хлеб давалі. Хварэў на страўнік, аперацыю прайшоў. Як быў яшчэ ваеннапалонным, то цярпеў ад непасільнай працы і голаду: запрагалі ў шлеі, а калі нагнуўся, каб лебяду хаця схапіць, то немец біў. Я пайшоў кароў пасвіць — зарабляў за лета пуд жыта за карову; 22 каровы было. За мой заробак купілі жарабя на восень.

**Запісаў**
**Аляксандр Вярбіцкі**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXIV**

Мой бацька даволі шырока гаварыў не толькі аб даваеннай Польшчы, але таксама аб Савецкай Беларусі. У яго адносінах да міжваеннай Польшчы было многа адмоўнага і крытычнага. Лічыў ён, што дрэннае жыццё беларусаў у Польшчы было як бы з'явай нармальнай з увагі на тое, што Польшча была для беларусаў чужой дзяржавай. Пры гэтым аднак моцна негатыўна адносіўся да Савецкай Беларусі і ўважаў, што тыя крыўды, якія яна рабіла для сваіх людзей, былі больш балючыя ад тых, якія рабіла Польшча, а гэта таму, што Савецкая Беларусь рабіла іх роднаму народу. Зрэшты, лічыў, што савецкі беларускі дзяржаўны лад быў больш суровы і жорсткі, чым польскі даваенны рэжым:

„Ты знаеш, што ў нас было перад вайною? Людзі, значыцца, жылі ў вялікай бядзе і беларусы ні мелі ніякага ходу. Пры гэтым то вялася такая прапаганда, што ў Савецкай Беларусі то людзям жывецца вельмі добрэ і справедліво і што там то настаяшча наша родзіна. Ну і многія нашы беларусы верылі ў гэто і ты знаеш кідалі свае хаты і свае сем'і і ўцякалі праз граніцу ў Беларусь. Ну хто ўцікаў? Уцікалі найчасцей маладыя, або тыя каго праследвала паліцыя, або тыя хто належаў да камуністычнае парціі чы Грамады. Тыя, хто заставаўся тут у Польшчы, то моцно ім зайздросцілі, бо думалі, што ім там вельмі шчасліво жывецца, тады, калі мы жывемо ў бядзе. А ты знаеш як яно было направду? А направду то было так, што саветы іх хваталі ўсіх без разбору за шыварат і ў кутузку, у Сібір, у лагеры. А чаму так саветы рабілі? Таму, што ўсіх хто ўцікаў, лічылі за польскіх шпіёнаў. От бачыш як яно бывае. Такі сабе беларус дзень і ноч думаў аб савецкай шчаслівай родзіні, аб тым, што калі ўцячэ, то знойдзе шчаслівэ жыцце, а там на яго ждала кутузка. Мало хто з іх вярнуўся, усіх выканчыў Сталін. Калі прышлі да нас у 1939 саветы і яксе да нас прыехаў вялікі начальнік, то Езыб Міруцёў спытаў яго пра гэто дзело. Ну і знаеш, што ён нам адказаў? Адказаў ён прыблізіцельно так: „Лучше арестовать и посадить сто невиноватых если есть подозрение, что среди них есть один виновник, чем выпустить сто невиноватых и посреди них одного виноватого. Впрочем невиновных людей вообще нет".

То ты мне скажы, чы гэто ні страшна дурасць? Штось такое то было толькі ў Гітлера, каторы растрэльваў і паліў цэлы вёскі за якуюсь там віну або і без віны. Але пры санацыйнай Польшчы то такого ні было. Оўшом, перад вайною то была суровасць. Людзей арыштоўвалі і садзілі ў цюрмы і лупілі, калі падазравалі, што хтось камуніст, але такого, каб арыштоўваць сто невінаватых, бо можэ там быці адзін вінаватых, то пры санацыі ні было. І ні было так, каб за віну сына валаклі ў цюрму бацька, або за віну бацька пасадзілі сына. Кажды атвечаў за сябе. Ну і шчэ адно дзело. Польшча то ні была для нас родзіна, гэто было як бы чужос гасударство, ну а Беларусь то была як бы родна старана, родзіна. А якая ж гэто родзіна, калі яна вінаватых і нівінаватых садзіт у лагеры? Ну то сам бачыш, што калі разабрацца то ні было розніцы паміж Сталіном і Гітлером. Ну, яна, значыцца, то была, бо Гітлер то ні душыў уласнага народу, а Сталін то душыў.

Калі да нас прышлі саветы то на розных забранях людзі наракалі, што ў санацыйнай Польшчы ні было дзе зарабіці. А гэты розны агітатары, што былі на забранях, то ўсім гаварылі: „У нас работы сколько угодно. Пожалуйста, езжайте в глубь Советского Союза и работайте". І ты знаеш, некаторые дабравольно запісаліся на работы і паехалі. Як паехалі, так паехалі і след па іх прастыў. Завалаклі іх у Сібір, у тайгу або ў шахты і там яны беднягі і прапалі. От бачыш, як зарабілі! От і маеш сацыялісцічэскую родзіну для міравога пралетарыята, аб каторай крычаў на міцінгах у Маскве Троцкі. Мы ўсе ждалі ў 1939 року савецкае ўласці і нават збудавалі прывітальную браму, але тая ўласць аказалася ні такою салодкаю, як людзі думалі. Праўда, ні ўсё ў ёй было кепске. Пачалі бесплатно лечыці і вучыці, але арыштоўвалі і вывозілі таксамо дзіко".

**Алесь Барскі**

## РЭЦЭПТ

Да доктара бабуля прыйшла зранні:
— Мяне баліць вось крыж, — яна сказала.
Доктар даў ёй рэцэпт для націрання,
Ды назначыў праверку — ці лякарства памагала.

Сем дзён мінула і зноў прыйшла бабуля:
— Ой, доктар, памагло мне з гэтага мамэнту. —
З-за пазухі кускі рэцэпта выняла бядуля. —
Яшчэ адну паперку дайце, бо гэта сцерлася дашчэнту.

**„Улас"**

## СЕНТЭНЦЫІ

У агні гадоў і камень спаліцца на попел.

* * *

Сярод жывых асобін толькі чалавек адбірае сабе свабоду.

* * *

Бывае, што шапка ганарыцца галавою.

* * *

Дарогу жыцця брукуюць слёзы.

**Барыс Руско**

# НІЎКА

Мал. Леаніда Разладава

## Гліна

На адным камісарыяце трэба было перарабляць печы. Як вядома, да печаў трэба пяску і гліны, бо без гэтага пячнік печы не зробіць. Камендант камісарыята наняў вазака, каб той прывёз яму гліны. Той вазак прывёз фуру гліны і паставіў каня з фураю каля пастарунка, а сам заходзіць на дзяжурку і гаворыць дзяжурнаму, што ён прывёз фуру паліцыянтаў. Дзяжурны выйшаў, паглядзеў на фуру і пытаецца:

— Дзе тыя паліцыянты? Гэта ж гліна.

— Я баяўся гаварыць, што гэта гліна, бо глінаю празываюць паліцыянтаў, — адказаў вазак.

**Аляксандр Барташэвіч**

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 17. Сесяль Ябко

Сесяль Ябко — шматгадовы прэзідэнт Асацыяцыі народнай песні і танца, — падабаўся жанчынам ды ледзь не паплаціўся за гэта галавою.

Сесяль Ябко, што пра яго ні казалася б, быў незвычайнай асобай. Дыяпазон пачуццяў, якія ён выклікаў, расцягаўся ад захаплення мяжуючага з культам асобы да пагардлівасці. Шмат хто, а можа і большасць, зайздросцілі Ябко згаданай ужо прыхільнасці з боку жаночага полу.

Лірнік Дубко зайздросціў Ябко яшчэ з-за прафесійных фактараў. Для Ябко верш, як сам казаў, быў чыста тэхнічнай справай — паўтары мінуты ў крайнім выпадку. Ябко таксама часта паўтараў, што мае ў запасе чатырыста вершаў напісаных у выключнай натхнёнасці — нельга іх было расшыфраваць, нават самім аўтарам. Лік гэты палохаў нават найвялікшага зонаўскага рэкардыста — Квіка Фінляндца, у сілах якога было стварэнне ўсяго сарака вершаў у адну ноч. Лірнік яшчэ злаваўся на Ябко, бо гэты апошні, ці то з-за паэтычнага буянства, ці то з прычыны аглушэння зычнай у суседстве глухой, нязначна перакручваў Лірнікова прозвішча.

Сесяль займаўся дзейнасцю і ў „Гонях". Каб пісьменныя сталы маглі прамовіць, яны расказалі б не пра адзін Сесялеў подзвіг. Вельмі часта аднак Сесяль нічога надзвычайнага ў гэтай абстаноўцы не здзяйсняў, бо перашкаджала яму ламатня за дзвярыма. Гэта Арыстоцель Ванько і Лірнік Дубко сварыліся за тое, чыя чарга глядзець у дзірку ад ключа...

Сесяль Ябко часта падарожнічаў у Замбара. Некаторыя лічылі нават, што Сесяль там жыве, а ў Зоне бывае як госць. Як яно там ні было, але падарожжы гэтыя былі сапраўднай крыніцай натхнёнасці для Сесяля. І вось, аднаго разу, інтэр-сіты Замбара—Любагорск, якім ехаў Сесяль Ябко, руцінна запыніўся ў памежнай паласе. Перапын гэты не выклікаў асаблівай здзіўленасці сярод пасажыраў — усім было вядома, што цяпер чыгуначныя службы будуць зменьваць колы ва ўсім саставе. Розніца ў шырыні рэек паміж Замбара і Любагорскам была аж у семнаццаць сантыметраў у карысць Замбара.

Сесяль Ябко, як прынцып, карыстаўся гэтымі перапынамі, каб палюбавацца навакольнай прыродай ды скласці пры нагодзе чарговую нізку вершаў, у якой спяваў хвалу для красы свайго краю. Ён выйшаў з цягніка ды падаўся толькі сабе вядомай сцяжынай у лясы, пералескі, хмызнякі і верасы памежнай паласы...

*О, краю мой любасны...*

Сесяль Ябко рызыкнуў гэты не надта арыгінальны радок, уважліва слухаючы ці не надыходзіць той добра вядомы зык паэтычнай настроенасці...

*...чысціню твайго неба*
*я апішу як трэба...*

Цьфу, рытміка, а асаблівa рыфма не надта спадабаліся Сесялю і ён спрабаваў адвесці сваю ўвагу ў бок верасоў, якія фіялетам запаланілі навакольны свет... Ён ужо браўся нанава зладжваць верш — *фіялет-куплет*, — калі з'явіўся новы аб'ект, а лепш сказаць: лірычны суб'ект, русалка, Муза, НАТХНЁНАСЦЬ...

Сесяль, нібыта францік-падлетак, падбег да жанчыны з распушчанымі валасамі — узрывы летняга ветрыку хвалявалі ейную лёгкую сукенку. І тут жа Сесяль праспяваў мабыць адзін са сваіх чатырохсот неразгаданых вершаў, пасля чаго, нечага затойваць, абое заняліся больш зямнымі спосабамі выяўлення красы і любові...

* * *

Старшы лейтнант Нкалонга Сміт сёмы год служыў у пагранічнай службе Замбара. Ад двух гадоў камандаваў ён пастарункам. Калі чарговы раз выціраў мокры ад поту лоб, быў амаль упэўнены, што нічога асаблівага ў ягоным жыцці ўжо не здарыцца, а ён сам спакойна прычакае пенсію. Ягоная змена набліжалася да канца — паднačальных вярталіся з пагранічных вышак, дзе пазменьвалі плёнкі ў камерах. Яшчэ толькі перагнаць на праектары запіс, падумалася Сміту, і дахаты...

На трох першых плёнках нічога асаблівага не запісалася. Апаратар, па сваёй прывычцы, на паскоранай хуткасці гнаў чацвёртую, калі гэтае сталася...

— Слёўлі, Джон — папрасіў па дзяржаўным трэйшан Нкалонга Сміт, — слёўлі.

Апаратар вярнуў плёнку ўзад і пусціў яе нармальным ходам. Спакойны ды ўраўнаважаны воблік камендаанта пераменьваўся з секунды ў секунду. Прысутныя акамянелыя глядзелі то на скрыўлены твар камендаанта, то на фільм: адзаду, знізу, ля пахіленай бярозкі, ездакі ды шмат што іншае...

— Хто гэта такі? — спытаўся ледзь чутным з-за сіпласці голасам Сміт.

На якую хвіліну ўсталявалася цішыня, пакуль не прамовіў дрыготкім голасам адзін з малодшых салдат.

— Гэта... ваша жонка, калі не памыляюся, сэр.

Нкалонга Сміт здушыў праклён, які ціснуўся яму на вусны ды закрычаў:

— Сваю жонку я ведаю! Я пра яго пытаюся!

— Адну хвілінку, сэр, — кінуўся на дапамогу той жа малады салдат.

Праз паўгадзіны была ўстаноўлена тоеснасць і службовы адрас...

* * *

Спакойна-застойная экзістэнцыя Асацыяцыі народнай песні і танца скранулася ў фундаменце ў гэты дзень. У сядзібу Асацыяцыі ўварваўся ашалелы, з пенай на вуснах, крышку смуглявы асобень у форме пагранічнай службы Замбара. Аддаўшы некалькі выстралаў у сцяну, стаў пакрыкваць на няўцямнай мове.

— Сесяль Ябко! Уэр-із-хі?

Сесяль меў аднак шчасце, быў якраз у „Гонях", куды, дабываючы з сябе апошні дух, у час, дабег Раскірэк Цівун.

— Сесь... Сесь... — Цівун, як у прыступе інфаркту хапаўся за сэрца, — ратуйся, а то галавою паплацішся за манду...

* * *

„Гоні", а ўслед за імі і любагорскія газеты, апісалі пазней гэты выпадак наступным чынам.

*РЭАКЦЫЯ НЕ СПІЦЬ!*

*(...) 17 г.м. апаўдні ў сядзібу Асацыяцыі народнай песні і танца ўварваўся, пераапрануты ў форму афіцэра пагранічнай службы, баявік замбарскай падрыўной арганізацыі, які, запалохаўшы ўсіх прысутных зброяй, хацеў прыкончыць вядомага зонаўскага дзеяча — Сеселя Ябко, старшыню Асацыяцыі. С. Ябко толькі цудам вырваўся з кіпцюроў тэрарыста.*

*„Гоні", як і ўся прагрэсіўная ды міралюбівая частка Зоны, выказваюць рашучы пратэст супраць актаў насілля з боку рэакцыйных сіл замбарскага імперыялізму (...).*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Маё жыццё было перапоўнена горыччу і расчараваннем. Быў муж, была дачка, але ніколі не было сям'і. Муж вельмі добра зарабляў і, калі б не распіўся, было б нам цалкам някепска жыць.

Кінуў нас з дачкою, калі дзіцяці было ўсяго два гадкі. Выехаў наогул з Беластока. Ні аліментаў, ні якойсьці іншай дапамогі. Я рабіла, што магла, каб неяк пражыць. Маці-пенсіянерка не шмат магла дапамагчы, але даглядала дачушку, а я ў той час брала дадатковую працу дахаты, няраз праседжваючы над ёю цэлымі начамі. Пра сон тады не думала. Найважнейшым для мяне было — накарміць дзіця, ды заплаціць за кватэру, святло, газ.

Бацька маёй дачкі не адгукаўся некалькі гадоў. А пасля звярнуўся да мяне — тады, калі вырашыў развесціся са мною. Я нават не прасіла аліментаў, на развод згадзілася. Не ведаю, навошта ён яму быў. Мо хацеў адчуць сябе вольным чалавекам?.. Ніколі больш не жаніўся.

Неяк хутка пасля разводу ізноў паявіўся ў нас. Ну што, я павінна была выгнаць бацьку свайго дзіцяці?! Пажыў нейкі тыдзень. Я думала, што нешта ў яго не выйшла з наступнай кандыдаткай у жонкі, дык прыехаў. Ну, навошта, навошта браў развод?..

Высветлілася праз нейкі час, што сапраўды тая „кандыдатка", з якой ужо ён тады жыў, выгнала яго з хаты. Што з таго, што прыгожы, калі вечна прыходзіў п'яны, як свіння...

Доўга ў нас не ўседзеў. Нешта карціла яму, каб вярнуцца ў тую сваю Варшаву. Мо ў горле засохла, дык рваўся да сабутэльнікаў, а мо з-за таго кахання.

Відаць, і там ужо не было на што разлічваць, бо пачаў прыязджаць штораз часцей. Быў-быў — і раптам без слова ўцякаў. Не меў пастаяннай працы. Мне яго візіты пачалі быць цяжарам. Але дзіця любіў.

Дзяўчынка прывязвалася да яго ўсё больш, і мне было балюча глядзець на тое, якімі вачыма яна праводзіла яго, калі выязджаў. Невядома было, ці вернецца яшчэ раз. Але мне нават рабілася тады лягчэй. Не трэба было яму даваць есці, было больш часу на так званую „халтуру", каб было за што купіць ежу. Мой былы муж, калі прыязджаў, грашыма не раскідаўся.

Наогул паводзіў сябе так, быццам бы нічога паміж намі не змянілася, быццам і не было разводу. А я яго, як апошні дурань, надалей кахала і ішла на ўсё. Зрэшты, у яго адсутнасць не было ў мяне ніводнага мужчыны, да якога можна было б прытуліцца. Разумееш мяне, бадай.

Можа тыя яго „безалкагольныя" побыты ў нас прывялі да таго, што мой экс-муж пачаў памалу адварочвацца ад алкаголю. Знайшоў нарэшце добрую працу і рэгулярна прысылаў грошы дачцэ-студэнтцы. Але перастаў бываць у нас. Мне было цяжэй, чым раней. Развярэдзіў душу і зноў кінуў.

Сэрцайка! Я б усё гэта яшчэ нейк пережыла, калі б справа датычыла толькі мяне. Зразумей, мая справа ўжо перагарэла. Але ёсць яшчэ клопат дачкі. Ёй ужо 35 гадоў, а яна яшчэ дзеўка. Мне сэрца баліць, калі гляджу на яе. Я ўяўляла сабе, што яна будзе шчаслівая, будзе ў яе добры муж, прыгожы дом, дзеці. А яна між тым у бок мужчын нават не глядзіць. Не выйду — і ўсё, паўтарае ўвесь час. Не хоча, сказала, мець такога жыцця, як яе маці.

Божа, ці ж я хацела? Для яе наша жыццё стала адзіным узорам сям'і і інакш яна сабе яго не ўяўляе. А столькі шчаслівых людзей навокал. Я не магу даравац сабе, што прычынілася да няшчасця дачкі, хаця яна лічыць сябе шчаслівай, што не звязалася з абыкім. Як дапамагчы ёй?

**Клара**

Даражэнькая Клара! Калі твая дачка лічыць сябе шчаслівай, дык хай так і будзе. Мо так ёй лепш. Урэшце ў кожнага чалавека ўсяго адно жыццё, якое ён мае права пражыць паводле сваёй мадэлі.

Несумненна, што тваё жыццё палажыла свой адбітак на далейшым лёсе дачкі, і было б добра, калі б усё ішло нармальным ходам. Аднак жа і несямейныя неяк знаходзяць свае радасці.

Кажаш, што навокал вас не ўсе такія нешчаслівыя ў сямейным жыцці? Дык лепшых узораў дачка не бачыць? А мо проста яшчэ не трапіла на свайго...

**Сэрцайка**